• выдаецца са жніўня1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 700 рублёў

4 студзеня 1996 г.
чацвер, №№ 1 — 2
(22804— 22805)



ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### РОСТУ ЦЭН НЕ БУДЗЕ. ПРЫНАМСІ, ПАКУЛЬ

**Інфармацыя аб павелічэнні з 1 студзеня памеру мінімальнай зарплаты адразу парадзіла лагічныя хваляванні: ці не пацягне за сабой рост даходаў насельніцтва чарговае павышэнне цэн?**

Як запэўнілі карэспандэнта «Звязды» ў Дзярждэпартаменце цэн, павышэнне памеру мінімальнай зарплаты не павінна істотна паўплываць на агульную структуру затрат айчынных прадпрыемстваў. Да таго ж апошнія самі не вельмі зацікаўлены ў падаражанні ўласнай прадукцыі, бо, як вядома, склады большасці з іх і без таго перапоўнены нерэалізаваным таварам. Такім чынам, чарговага павышэння цэн не адбудзецца. Прынамсі, у першай палове студзеня. Праўда, што будзе далей, пакуль невядома. Аднак, паводле прагнозу спецыялістаў Дэпартамента, нават калі лічбы на крамных цэнніках у бліжэйшы час і зменяцца, змяненне тое будзе нязначным.

**Сяргей ГРЫБ.**

### У БЕЛАРУСКІХ АВІЯТАРАЎ З'ЯВІЎСЯ «СПЕКТР»

**У аэрапорце «Мінск-2» напярэдадні новага 1996 года ўведзена ў строй аўтаматызаваная сістэма кіравання паветраным рухам «Спектр».**

У гэтай знамянальнай для беларускіх авіятараў падзеі прыняў удзел Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Высока ацаніўшы карпатлівую работу спецыялістаў, якія ўкаранілі і асвоілі новую сістэму, ён падкрэсліў, што яна з'яўляецца значным укладам у развіццё эканамічнага патэнцыялу рэспублікі і зможа істотна палепшыць імідж нашай маладой дзяржавы. Неба Беларусі — гэта перакрыжаванне паветраных шляхоў. Нашай паветранай прасторай карыстаецца сёння больш за 200 авіякампаній з 70 дзяржаў свету. Забяспечыць бяспеку палётаў, якаснае абслугоўванне праходжання паветраных суднаў, дазволіць паспяхова ўключыцца ў сучасны міжнародны авіякасмічны комплекс — у гэтым і ёсць асноўнае прызначэнне новай спецыялізаванай тэхнікі сістэмы «Спектр».

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

### ВЫЗНАЧАНЫ МЕХАНІЗМ РЭАЛІЗАЦЫІ ЎКАЗА ПРЭЗІДЭНТА АБ СВОЕЧАСОВАЙ ВЫПЛАЦЕ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

**Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь вызначаны механізм рэалізацыі ўказа Прэзідэнта адносна своечасовасці выплаты заработнай платы.**

У зацверджаным 29 снежня дакуменце гаворка ідзе па сутнасці аб браніраванні Нацыянальным банкам на гэтыя мэты пэўнай колькасці грашовых сродкаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

### АБ ПЕРШЫМ ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў паведамляе, што першае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання адбудзецца 9 студзеня 1996 года ў 10 гадзін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

### ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

Рэгістрацыя дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія прыбудуць на першае пасяджэнне, будзе праводзіцца 8 студзеня 1996 года з 9 да 20 гадзін, 9 студзеня — з 8 да 9 гадзін 30 хвілін у Доме ўрада (фае залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь).

Месца пражывання дэпутатаў Вярхоўнага Савета — гасцініца «Мінск».



# НАВАГОДНЯЕ ВІНШАВАННЕ

## ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. Р. ЛУКАШЭНКІ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ

*Паважаныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь!*

*Дарагія суайчыннікі!*

*Мы знаходзімся на парозе новага, 1996 года. Жыццё перагортвае сваю чарговую старонку. Кожная з іх — гэта лёсы мільёнаў нашых сучаснікаў.*

*Адыходзячы год становіцца набыткам гісторыі. У радасныя хвіліны чакання навагодняга абнаўлення я з задавальненнем адзначаю, што ў 1995 годзе быў захаваны мір на беларускай зямлі. Гэта наша агульная заслуга і неацэнны набытак, які мы перададзім дзецям і ўнукам.*

*Спакой у нашай краіне, палітычная і грамадзянская раўнавага дасягаюцца дзякуючы мужнасці, цярпенню і самаадданай працы ўсяго народа.*

*На заводах, фабрыках, у калгасах, саўгасах і ўстановах закладваецца фундамент эканамічнага пад'ёму рэспублікі і стабілізацыі народнагаспадарчага комплексу.*

*Нам удалося практычна спыніць інфляцыю, узняць важкасць беларускага рубля. Мы наладзілі карыснае супрацоўніцтва з Усходам і Захадам, забяспечылі пастаўку ўсіх відаў энергіі для насельніцтва і вытворчасці. У дзяржаве забяспечваецца адказнае кіраванне на ўсіх узроўнях.*

*Гэта першыя, можна сказаць выпакутаваныя, парасткі будучыні... Я веру, што яны дадуць спрыяльныя ўсходы і на нашай ніве мы збяром добры ўраджай, а гэта значыць, што шчасце і дастатак прыйдуць у кожны дом, у кожную сям'ю.*

*На нашым шляху будзе шмат цяжкасцей, якія, я ўпэўнены, мы пераадолеем. Як грамадзянін і як Прэзідэнт краіны сардэчна дзякую вам, дарагія суайчыннікі, за грамадзянскую стойкасць у няпростай сацыяльнай абстаноўцы.*

*Дзякуй вам за стварэнне бачных абрысаў нашага беларускага дома, цёплага, утульнага і шчаслівага для ўсіх. Гэта абавязвае кіраўніцтва краіны больш энергічна брацца за справу і шукаць аптымальныя шляхі вырашэння складаных задач, перш за ўсё, што накапіліся ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, культуры, ахове здароўя і народнай асвеце.*

*Вырашэнне гэтых праблем наблізіць нас да запаветнай мэты — ператварэння Рэспублікі Беларусь у квітнеючую еўрапейскую дзяржаву. І мы будзем настойліва дабівацца такой мэты.*

*Сёння я яшчэ раз падкрэсліваю: мы будзем будаваць дэмакратычную, сацыяльна арыентаваную дзяржаву, планамерна ўдасканальваць эканоміку і духоўныя сферы для задавальнення матэрыяльных і культурных патрэбнасцей чалавека. Іншай меры каштоўнасці нашым пераўтварэнням няма!*

*Для ажыццяўлення планаў у надыходзячым годзе складваюцца спрыяльныя ўмовы: выбраны новы парламент, сфарміраваны апарат выканаўчай і судовай уладаў на ўсіх узроўнях. Такім чынам, у нас ёсць усе інстытуты дэмакратычнай дзяржавы.*

*У сувязі з гэтым я звяртаюся да беларускага народа і прапаную аб'явіць 1996 год годам нацыянальнай згоды і стварэння на карысць нашай Радзімы!*

*Я ведаю пра цяжкасці, якія перажываюць нашы людзі. Абяцаю ў першыя месяцы 1996 года аказаць вам, дарагія суайчыннікі, рэальную дапамогу і падтрымку ў паляпшэнні матэрыяльнага становішча.*

*Наступны год — гэта не толькі год надзей і здзяйсненняў. У 1996 годзе споўніцца 10 гадоў з дня аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Наша дзяржава будзе праяўляць клопаты пра ўсіх тых, хто перажыў гэту бяду. Няхай такое не паўторыцца нідзе на зямлі.*

*Віншую з Новым годам рабочых і калгаснікаў, нашу інтэлігенцыю. Ад вашага таленту і залатых рук залежыць дабрабыт нашай нацыі.*

*Нізкі паклон вам, нашы цудоўныя жанчыны: маці, жонкі, сёстры каханыя і любячыя. Вы — самае светлае ў нашым жыцці. Напярэдадні Новага года я жадаю вам радасці, душэўнага спакою і дабрабыту.*

*Віншую з Новым годам таленавітую і працавітую моладзь — юнакоў і дзяўчат, якія з'яўляюцца жыватворнай сілай нашага грамадства, верай у яго будучыню.*

*Зямны паклон нашым героям — ветэранам вайны і працы. Вы — наш гонар, сумленне, прыклад любві да Радзімы. Ідуць гады, змяняюцца пакаленні, але вашы ратны і працоўны подзвігі не забудуцца ніколі! Моцнага здароўя вам і доўгіх гадоў жыцця.*

*Я віншую з Новым годам салдат і афіцэраў беларускай арміі, супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, судоў і пракуратуры, словам, усіх, хто знаходзіцца на варце міру і спакою ў нашай дзяржаве. Жадаю вам толькі мірнай службы і абяцаю, што ні адзін з вас не будзе кінуты ў горан вайны на чужой зямлі!*

*Навагодняе віншаванне тым, хто ў гэту хвіліну працуе, знаходзіцца ў дарозе, стаіць на пасту, ахоўвае нашы граніцы і не можа быць са сваёй сям'ёй, у коле сяброў. Жадаю вам паспяховай навагодняй працоўнай вахты!*

*З надыходзячым Новым годам я віншую замежных грамадзян, усіх дыпламатаў і работнікаў замежных пасольстваў у Рэспубліцы Беларусь. Жадаю здароўя і шчасця, міру і дабрабыту вашым народам. Шчыра спадзяюся на плённае супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі.*

*Паважаныя грамадзяне роднай Беларусі! Надыходзіць новы, 1996 год, у якім пры ўсенароднай згодзе мы знойдзем высакародны шлях да шчасця і дабрабыту нашай Айчыны!*

*Міру і радасці вам, дарагія суайчыннікі!*

*З Новым годам, з новым шчасцем!*

# ДЗЕЛЯ СТАБІЛІЗАЦЫІ Ў ЭКАНОМІЦЫ І ГРАМАДСТВЕ

**У самы пярэдадзень новага, 1996 года — у другой палове дня 30 снежня — у Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь адбылося падпісанне Генеральнага пагаднення паміж прафсаюзамі і наймальнікамі на працу. З гэтай нагоды адбылася прэс-канферэнцыя.**

Адрознасць сучаснага Генеральнага пагаднення ад папярэдніх трох падкрэслівалі на прэс-канферэцыі аўтары ўсіх подпісаў пад жыццевызначальным, у першую чаргу для прафсаюзаў, дакументам. Па-першае, як заўважыў М. Чыгір, падпісанне адбылося не тады, калі павінна ўжо працаваць само Пагадненне, а напярэдадні. Па-другое, якраз пасля прыняцця рашэння аб увядзенні новай мінімальнай заработнай платы і новай тарыфнай стаўкі першага разраду. А апошняе ажыццяўляецца пры ўмове мабілізацыі і рацыянальнага выкарыстання бюджэту. Да ўсяго астатняга — ніякіх страт для таго ж бюджэту, ніякіх ускладненняў на фінансавым рынку дзяржавы. Агучаны на прэс-канферэнцыі аптымізм можна хутчэй зразумець як магутнае жаданне пражыць 1996 фінансавы і проста год у вялікай дружбе з бюджэтам і хаця б у некаторай згодзе з эканомікай.

Лідэр беларускіх прафсаюзаў Уладзімір Ганчарык падкрэсліў, што Генеральнае пагадненне ўзгоднена з бюджэтам. Праўда, тут трэба, відаць, заўважыць, што бюджэт на 1996 год яшчэ не зацверджаны. На гэтую акалічнасць звярнулі ўвагу і журналісты. Прэм'ер-міністр, адказваючы на пытанне, выказаў сваю ўпэўненасць, што разгляду бюджэту ў Вярхоўным Савеце перашкод ствараць не будуць. Але ж вернемся да высноў Уладзіміра Ганчарыка. Якія ж яго астатнія аргументы на карысць гістарычнасці Генеральнага пагаднення на 1996 год? У. Ганчарык, нагадаўшы ўжо адзначаныя прэм'ер-міністрам асаблівасці часу, выдзеліў і ўказ Прэзідэнта па выплаце зарплаты (у прыватнасці, пытанне браніравання сродкаў на зарплату), і нядаўні ўказ па жыллёваму будаўніцтву. Што ж датычыць агульнага сэнсу падпісанага пагаднення, то, па перакананню прафсаюзнага лідэра, яно нацэлена на стабілізацыю сітуацыі ў эканоміцы і грамадстве.

Якім чынам і з выкарыстаннем якіх канкрэтных мераў? Уладзімір Карагін падкрэсліў, што важную ролю адыгрывае ўжо само супадзенне пунктаў гледжання на сацыяльна-эканамічнае развіццё як урада, прафсаюзаў, так і наймальнікаў на працу. Але ж былі і папярэднія пагадненні. На жаль, даволі часта яны парушаліся. Як складзецца лёс сёлетняга? Адказ на гэтае пытанне дасць час. Раней урад, распрацоўваючы тое ці іншае рашэнне, не заўсёды звяртаўся да экспертызы наймальнікаў на працу. Летась пачаў сваю дзейнасць Нацыянальны савет па працоўных і сацыяльных пытаннях. Магчыма, яго руплівасць і прынясе ў недалёкай будучыні свой плён.

На прэс-канфрэнцыі з нагоды падпісання Генеральнага пагаднення прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір і лідэр беларускіх прафсаюзаў адказалі на адно і тое ж пытанне адносна мяркуемай усенацыянальнай забастоўкі, як быццам аб'яўленай Свабодным і незалежнымі прафсаюзамі. Кіраўнік урада падкрэсліў, што сцвярджэнні пра падзенне жыццёвага ўзроўню не адпавядаюць рэчаіснасці. Так, праблемы існуюць. Найпершая — несвоечасовыя выплаты заработнай платы (і асабліва ў сельскай гаспадарцы). Рэальнай жа глебы, заўважыў прэм'ер-міністр, для масавых выступленняў няма.

Уладзімір Ганчарык заявіў, што рашэння аб нацыянальнай забастоўцы няма. Падставай для многіх размоў, відаць, служаць сходы прадстаўнікоў. На іх ішла размова наступнага характару: калі не будуць выкананы патрабаванні — пачаць падрыхтоўку. Якія прычыны ляглі ў аснову першачарговых патрабаванняў на сходах прадстаўнікоў? Пытанне з павышэннем заработнай платы, а таксама нізкі тэмпературны рэжым на прадпрыемствах.

Пасля непрацяглай па часе прэс-канферэнцыі з просьбай пракаменціраваць сам факт падпісання Генеральнага пагаднення я звярнуўся да прэзідэнта Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі Міхаіла Лаўрыновіча.

— Мы ўсе павінны сёння працаваць на павышэнне ўмоў жыцця народа. І, вядома ж, дасягнуць гэтага магчыма толькі за кошт спынення падзення вытворчасці, — зазначыў аўтарытэтны прамыслоўца. Адметна, што прафсаюзы, дбаючы як быццам толькі аб сваім, знаходзяцца разам, побач з усімі зацікаўленымі бакамі. З нічога ва ўмовах усеагульнага гібення сацыяльныя льготы не вырастуць. Сацыяльныя прыярытэты могуць быць дасягнуты пры ўмове хіба што стабілізацыі вытворчасці, яе росту.

— У нядаўнім інтэрв'ю «Звяздзе» вы заўважылі, адказваючы на пытанне, за кошт чаго можа пачацца паступовае нарошчванне аб'ёмаў вытворчасці, што зношанасць фондаў вельмі вялікая, у тым ліку і ў сельскай гаспадарцы. І што прадукцыя машынабудавання пачне карыстацца парытэтам...

— Больш таго. Нам трэба арыентавацца і на зношанасць фондаў у Расіі. Відаць, ужо і ў яе вугальных басейнах «стаміліся» «БелАЗы» ранейшых гадоў выпускаў. Магчыма, да нас вымушаны будуць звярнуцца з новымі заказамі.

Агледзьцеся наўкола. Нам ёсць над чым працаваць. І нармальнае развіццё рынку толькі спрыяе пашырэнню, узмацненню сацыяльных гарантый, абавязковасці ў іх вырашэнні і з боку ўрада, і з боку наймальнікаў на працу.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**





## ПАСТАНОВА КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 707

### Аб павышэнні памеру мінімальнай заработнай платы і ўзмацненні стымулявання працы

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Устанавіць з 1 студзеня 1996 г. мінімальную заработную плату ў памеры 100.000 рублёў у месяц у якасці нарматыву, абавязковага для выканання ўсімі наймальнікамі.

2. Устанавіць з 1 студзеня 1996 г. тарыфную стаўку першага разраду ў памеры 110.000 рублёў у месяц.

Дзеянне гэтага пункта не распаўсюджваецца на суб'екты гаспадарання дзяржаўнай формы ўласнасці, дзе тарыфная стаўка першага разраду вышэй гэтага ўзроўню.

3. Міністэрству працы:

увесці ў дзеянне з 1 студзеня 1996 г. 28-разрадную Адзіную тарыфную сетку работнікаў Рэспублікі Беларусь з наступнымі міжразраднымі суадносінамі каэфіцыентаў:

з 1-га па 3-і разрады — 1,36;
з 3-га па 7-ы разрады — 1,16;
з 7-га па 10-ы разрады — 1,10;
з 10-га па 13-ы разрады — 1,07;
з 13-га па 18-ы разрады — 1,06;
з 18-га па 22-і разрады — 1,05;
з 22-га па 28-ы разрады — 1,04;

правесці ўдакладненне размеркавання работнікаў па тарыфных разрадах у залежнасці ад кваліфікацыі, складанасці і адказнасці выконваемых імі работ.

4. Устанавіць з 1 студзеня 1996 г. даплаты да тарыфных ставак і службовых акладаў, разлічаных у адпаведнасці з Адзінай тарыфнай сеткай работнікаў Рэспублікі Беларусь, для работнікаў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, у наступных памерах:

з 1-га па 4-ы разрады — 70.000 руб.;
з 4-га па 5-ы разрады — 55.000 руб.;
з 5-га па 6-ы разрады — 40.000 руб.;
з 6-га па 7-ы разрады — 25.000 руб.;
з 7-га па 8-ы разрады — 20.000 руб.

5. Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых і дацыруемых з бюджэту, забяспечыць пераразлік заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай гэтай пастановай стаўкай першага разраду і каэфіцыентамі Адзінай тарыфнай сеткі работнікаў Рэспублікі Беларусь.

6. Павялічыць з 1 студзеня 1996 г. з 20 да 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту памер пастаяннай даплаты да працоўных пенсій, вылічаных у мінімальным памеры, устаноўлены пунктам 3 пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 сакавіка 1995 г. № 184 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 10, арт. 237).

7. Міністэрству сацыяльнай абароны, Міністэрству абароны, Міністэрству ўнутраных спраў, Камітэту дзяржаўнай бяспекі з 1 студзеня 1996 г. правесці пераразлік пенсій зыходзячы з новага памеру мінімальнай заработнай платы.

Устанавіць, што для разліку пенсій аклады за воінскія (спецыяльныя) званні і службовыя аклады ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў вылічваюцца з прымяненнем каэфіцыента 0,8.

Міністэрству сацыяльнай абароны сумесна з Міністэрствам фінансаў перагледзець памеры дапамог, а кіраўнікам вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў — памеры дзяржаўных стыпендый студэнтам і навучэнцам.

8. Павялічыць з 1 студзеня 1996 г. у 1,7 раза назначаныя да ўказанай даты дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесіянальную падрыхтоўку (павышаюць кваліфікацыю) па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.

9. Прызнаць страціўшымі сілу:

пункты 1 — 4, 7, 8 Пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 28 лютага 1995 г. № 106 «Аб мерах па сацыяльнай падтрымцы насельніцтва» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 6, арт. 145);

пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 405;

пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 31 ліпеня 1995 г. № 406.

**Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь М.ЧЫГІР.**

*30 снежня 1995 г.*
*г. Мінск.*

# ГЕНЕРАЛЬНАЕ ПАГАДНЕННЕ

## паміж Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў на 1996 год

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскія аб'яднанні наймальнікаў і прафсаюзаў (у далейшым — Бакі) на падставе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях», Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб развіцці сацыяльнага партнёрства ў Рэспубліцы Беларусь» і Прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996 год заключылі гэта Генеральнае пагадненне аб абавязацельствах і дзеяннях, накіраваных на вырашэнне наступных асноўных задач:

стварэнне ўмоў для спынення спаду вытворчасці і зніжэння тэмпаў інфляцыі;

развіццё рынку працы, садзейнічанне занятасці насельніцтва;

прадухіленне зніжэння жыццёвага ўзроўню і забеспячэнне мінімальных сацыяльна-эканамічных гарантый для насельніцтва, абарона яго законных правоў і інтарэсаў;

развіццё працоўнай актыўнасці і прадпрымальніцкай дзейнасці;

забеспячэнне аховы працы, здароўя і экалагічнай бяспекі насельніцтва.

Заключыўшы Генеральнае пагадненне на 1996 год, Бакі дагаварыліся аб наступным:

### АСНОЎНЫЯ САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ

1. Ажыццявіць меры, якія забяспечваюць аб'ём выпрацаванага валавога ўнутранага прадукту не ніжэй за ўзровень 1995 года.

2. Дабіцца зніжэння ўзроўню інфляцыі к канцу 1996 года да 1-2 працэнтаў у месяц.

3. Забяспечыць долю сродкаў, накіроўваемых на аплату працы ў валавым унутраным прадукце не ніжэй за 35 працэнтаў.

4. На перыяд стабілізацыі эканомікі захаваць долю сродкаў, накіроўваемых з дзяржаўных крыніц на фінансаванне галін сацыяльнай сферы (у працэнтах да расходнай часткі бюджэту) не ніжэй за ўзровень 1995 года, павялічваючы аб'ёмы гэтага фінансавання па меры аздараўлення эканомікі.

5. Прадоўжыць работу па ўдасканаленню статыстычнага ўліку і справаздачнасці ў частцы паказчыкаў, якія характарызуюць сацыяльна-працоўныя адносіны ў грамадстве.

### КРЫТЭРЫІ ЖЫЦЦЁВАГА ЎЗРОЎНЮ І САЦЫЯЛЬНЫЯ ГАРАНТЫІ

6. Лічыць асноўнымі крытэрыямі, якія характарызуюць узровень жыцця насельніцтва, мінімальны спажывецкі бюджэт, сярэднюю заработную плату, мінімальную заработную плату.

7. Ажыццявіць практычныя меры па рэалізацыі адобранай Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь Канцэпцыі рэформаў аплаты працы ў Рэспубліцы Беларусь ва ўмовах рынкавых адносінаў.

8. Не дапускаць зніжэння сярэднямесячнай заработнай платы ў рэспубліцы ніжэй памеру мінімальнага спажывецкага бюджэту.

9. Устанавіць з 1 студзеня 1996 г. тарыфную стаўку першага разраду не ніжэй 12 працэнтаў велічыні мінімальнага спажывецкага бюджэту, забяспечыўшы з улікам фіксаваных дабавак для работнікаў бюджэтнай сферы ўказаныя суадносіны на ўзроўні ніжэй 21 працэнта. Штоквартальна разглядаць гэты паказчык.

10. Штомесячна разлічваць памер мінімальнага спажывецкага бюджэту сям'і з чатырох чалавек зыходзячы з індэкса спажывецкіх цэн.

11. Захаваць дагаворнае рэгуляванне формаў, сістэм і памераў аплаты працы на прадпрыемствах, у аб'яднаннях і арганізацыях праз калектыўныя дагаворы і тарыфныя пагадненні, палажэнні аб прэміраванні. Рэгуляванне заработнай платы праводзіць у залежнасці ад росту аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, павышэння эфектыўнасці гаспадарання і фінансавага стану.

Прадугледжваць пераразлік (асучасніванне) заработнай платы ва ўсіх выпадках захавання сярэдняга заработку і індэксацыю пры парушэнні тэрмінаў выплаты.

Забяспечыць паўнату і першачарговасць выплаты налічанай заработнай платы.

12. Забяспечыць сацыяльную дапамогу грамадзянам і сем'ям, якія аказаліся па аб'ектыўных прычынах у катэгорыі маламаёмных грамадзян, выкарыстоўваючы заяўны прынцып дзяржаўнай падтрымкі і дэкларавання даходаў.

13. Распрацаваць нарматыўныя акты, што рэгламентавалі б рэалізацыю рашэнняў па крэдытнай падтрымцы грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, па дзяржаўнаму субсідзіраванню будаўніцтва, набыцця жылля. Узровень кампенсацыі насельніцтвам затрат на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі прывесці ў адпаведнасць з Нацыянальнай жыллёвай праграмай.

Устанавіць, што пераход да павышэння ўзроўню кампенсацыі затрат на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі не можа разглядацца без адпаведнага павышэнння даходаў грамадзян.

Разгледзець пытанне субсідзіравання расходаў на ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі ведамаснага жыллёвага фонду, у тым ліку прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, а таксама грамадскіх арганізацый за кошт бюджэтаў і пазабюджэтных фондаў.

14. Адшукаць крыніцы пакварталънага фінансавання заработнай платы і яе індэксацыі работнікам культурна-асветных і пазашкольных устаноў, якія знаходзяцца ў распараджэнні ці карыстанні прафсаюзаў, а таксама набыцця інвентару для дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ.

15. Прадоўжыць дзяржаўнае рэгуляванне цэн на медыкаменты, камунальныя паслугі, газ, паліва, электраэнергію, адпускаемыя насельніцтву.

16. У выпадку ліквідацыі суб'екта гаспадарання ці яго банкруцтва забяспечваць першачарговае пакрыццё расходаў, якія ідуць на выплату заработнай платы і кампенсацый, прадугледжаных тарыфнымі пагадненнямі і калектыўнымі дагаворамі.

17. У мэтах забеспячэння парытэту цэн на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю ажыццяўляць далейшую лібералізацыю цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю пры захаванні дзяржаўнай фінансавай падтрымкі мэтавых праграм па павелічэнню вытворчасці некаторых яе відаў, маючы на ўвазе павышэнне эфектыўнасці вытворчасці і памеру аплаты працы.

Для забеспячэння дзяржаўных закупак адкрыць прадпрыемствам—нарыхтоўшчыкам сельскагаспадарчай прадукцыі асобныя рахункі з мэтай забеспячэння своечасовасці разлікаў з яе вытворцамі.

18. Ажыццявіць перавод студэнтаў і навучэнцаў у дзяржаўных навучальных установах, якія вучацца за кошт асабістых зберажэнняў, пасля заканчэння імі гадавога курса на «выдатна» на бясплатнае навучанне на наступным курсе ў межах плана падрыхтоўкі спецыялістаў, а таксама выдзеленых на фінансаванне навучальнай установы асігнаванняў.

19. Забяспечыць фінансаванне мерапрыемстваў па аздараўленню насельніцтва ў 1996 годзе за кошт адлічэнняў са сродкаў сацыяльнага страхавання ў памеры 1,53 працэнта ад фонду аплаты працы.

Парадак арганізацыі аздараўлення працоўных і дзяцей за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання і дзяржаўнага бюджэту вызначаецца Пагадненнем паміж Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь і Саветам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі аб арганізацыі аздараўлення насельніцтва Рэспублікі Беларусь у 1996 годзе ад 7 снежня 1995 г.

20. Прапрацаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку прапановы па забеспячэнню аднолькавых падаткаабкладання і тарыфаў на камунальныя паслугі для ведамасных устаноў аховы здароўя, культуры і спорту, адкрытых для абслугоўвання ўсяго насельніцтва, і аналагічных устаноў, фінансуемых з бюджэту.

21. Прадоўжыць распрацоўку нарматыўна-прававой базы па персаніфікацыі медыцынскага і сацыяльнага страхавання.

### РАЗВІЦЦЁ РЫНКУ ПРАЦЫ. САДЗЕЙНІЧАННЕ ЗАНЯТАСЦІ НАСЕЛЬНІЦТВА

22. У мэтах прадухілення масавага беспрацоўя прадугледзець у праграмах прыярытэт актыўных формаў забеспячэння занятасці насельніцтва і ўзмацненне дзяржаўнага рэгулявання рынку працы.

У выпадку перавышэння колькасці беспрацоўных больш за 3 працэнты ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь з удзелам рэспубліканскіх аб'яднанняў прафсаюзаў і наймальнікаў прымае неабходныя меры.

23. Распрацаваць сістэму мераў па дзяржаўнай падтрымцы стварэння новых рабочых месцаў, у тым ліку для моладзі і асоб з паніжанай канкурэнтаздольнасцю на рынку працы.

24. Прадоўжыць работу па развіццю сістэмы прафесіянальнай перападрыхтоўкі беспрацоўных і падтрымкі самазанятасці насельніцтва. Забяспечыць поўнае і рацыянальнае выкарыстанне сродкаў, прадугледжаных на гэтыя мэты ў бюджэце Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці на 1996 год.

### АХОВА ПРАЦЫ. ЭКАЛАГІЧНАЯ БЯСПЕКА

25. Забяспечыць удасканаленне формаў і метадаў узаемадзеяння дзяржаўнага і грамадскага кантролю за захаваннем заканадаўства і правілаў па ахове працы. Унесці прапановы па стварэнню прававой і нарматыўнай базы, якая рэгулюе арганізацыю ведамаснага і тэрытарыяльнага кіравання аховай працы на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях.

26. У мэтах удасканалення нарматыўнай базы ў галіне аховы працы:

правесці падрыхтоўчую работу па ратыфікацыі Канвенцыі Міжнароднай арганізацыі працы № 155 «Аб бяспецы і гігіене працы і вытворчым асяроддзі»;

падрыхтаваць праекты Законаў Рэспублікі Беларусь «Аб бяспецы пры выкарыстанні хімічных рэчываў на вытворчасці», «Аб бяспецы ў прамысловасці»;

распрацаваць у першым паўгоддзі праграму першачарговых мераў па забеспячэнню аховы і бяспекі працы на вытворчасці на 1996 — 1997 гады;

завяршыць распрацоўку эканамічнага механізма, які стымулюе стварэнне на прадпрыемствах здаровых і бяспечных умоў працы.

Распрацаваць і зацвердзіць нарматыўныя акты па ахове працы, у тым ліку:

нормы гранічна дапушчальных нагрузак для жанчын і непаўналетніх пры падыманні і перамяшчэнні грузаў уручную;

палажэнне аб правядзенні сертыфікацыі адпаведнасці пастаянных рабочых месцаў на вытворчых аб'ектах, сродкаў вытворчасці, абсталявання для сродкаў калектыўнай і індывідуальнай абароны патрабаванням аховы працы;

тыпавое палажэнне аб навучанні, інструктажы і праверцы ведаў работнікаў па пытаннях аховы працы;

палажэнне аб галіновых, рэгіянальных фондах аховы працы і фондах аховы працы прадпрыемстваў.

27. Распрацаваць сістэму мераў па дзяржаўнаму рэгуляванню забеспячэння працуючых сродкамі індывідуальнай аховы.

28. Падрыхтаваць прапановы па ўпарадкаванню сістэмы льгот і кампенсацый за работу ў асаблівых умовах працы на прадпрыемствах.

29. Распрацаваць Рэкамендацыі дзяржаўных органаў і прафсаюзаў аб змесце раздзела «Ахова працы» ў калектыўных дагаворах, пагадненнях і працоўных дагаворах.

### ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ БАКОЎ. МЕХАНІЗМ РЭАЛІЗАЦЫІ ГЕНЕРАЛЬНАГА ПАГАДНЕННЯ

30. Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прымае меры па пераадоленню крызісу эканомікі, забеспячэнню ўзгодненых крытэрыяў жыццёвага ўзроўню насельніцтва, удасканаленню сістэмы працоўных адносінаў, забеспячэнню і абароне правоў і свабод грамадзян.

Пры падрыхтоўцы нарматыўных актаў, якія закранаюць сацыяльна-эканамічныя інтарэсы працоўных і наймальнікаў па пытаннях гэтага Генеральнага пагаднення, іх прававое і эканамічнае становішча, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь прадастаўляе магчымасць прадстаўнікам Бакоў прымаць удзел у распрацоўцы ўказаных актаў і ўлічвае іх думку пры прыняцці адпаведных рашэнняў.

31. Рэспубліканскія аб'яднанні прафсаюзаў садзейнічаюць дасягненню эканамічнай эфектыўнасці работы прадпрыемстваў, росту прадукцыйнасці працы, эканоміі сыравінных і энергетычных рэсурсаў, павышэнню матывацыі да працы, умацаванню дысцыпліны, парадку і арганізаванасці на вытворчасці; дабіваюцца рэалізацыі мераў, накіраваных на забеспячэнне бяспечных умоў працы, павышэнне сацыяльнай абароненасці наёмных работнікаў і членаў іх сем'яў, аздараўленне працоўных; удзельнічаюць у падрыхтоўцы рашэнняў, якія закранаюць працоўныя і сацыяльна-эканамічныя правы грамадзян.

32. Рэспубліканскія аб'яднанні наймальнікаў прымаюць меры па забеспячэнню эфектыўнасці і канкурэнтаздольнасці вытворчасці, стварэнню эфектыўных рабочых месцаў, забяспечваюць аплату працы і сацыяльныя гарантыі, ахову працы і здароўя работнікаў на вытворчасці ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам і гэтым Генеральным пагадненнем.

33. У мэтах павышэння эфектыўнасці сацыяльнага партнёрства Бакі ўносяць у Нацыянальны савет па працоўных і сацыяльных пытаннях прапановы па змяненню і дапаўненню існуючага заканадаўства ў частцы ўстанаўлення мераў адказнасці Бакоў за невыкананне калектыўных дагавораў, пагадненняў, а таксама спрашчэння працэдуры вырашэння калектыўных працоўных спрэчак. Распрацоўваюць Канцэпцыю развіцця сістэмы сацыяльнага партнёрства ў Рэспубліцы Беларусь і праграму па яе рэалізацыі.

34. Гэта Генеральнае пагадненне ўступае ў сілу з моманту яго падпісання Бакамі і дзейнічае да заключэння новага пагаднення.

35. У месячны тэрмін пасля падпісання гэтага Генеральнага пагаднення кожны з Бакоў распрацоўвае мерапрыемствы па яго выкананню, якія прадстаўляюцца каардынатару Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях.

36. Нормы і палажэнні, уключаныя ў гэта Генеральнае пагадненне, распаўсюджваюцца на ўсіх наймальнікаў і наёмных работнікаў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, што размешчаны на тэрыторыі рэспублікі і ўваходзяць у аб'яднанні наймальнікаў і прафсаюзаў, упаўнаважаныя прадстаўнікі якіх падпісалі гэта пагадненне.

37. Кантроль за ходам выканання Генеральнага пагаднення, вырашэнне рознагалоссяў, якія ўзнікаюць у ходзе яго выканання, і інфармаванне насельніцтва ў сродках масавай інфармацыі па гэтых праблемах ажыццяўляе Нацыянальны савет па працоўных і сацыяльных пытаннях.

38. Гэта Генеральнае пагадненне адкрыта для далучэння да яго іншых рэспубліканскіх аб'яднанняў прафсаюзаў і наймальнікаў.

39. Кожны з Бакоў, які падпісаў Генеральнае пагадненне, нясе адказнасць за яго рэалізацыю ў межах сваіх паўнамоцтваў і абавязваецца супрацоўнічаць на прынцыпах сацыяльнага партнёрства.

40. У выпадку парушэння палажэнняў Генеральнага пагаднення кожны з Бакоў мае права запатрабаваць склікання Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях з удзелам незалежных экспертаў або прыняць іншыя меры ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

41. У гэта Генеральнае пагадненне могуць уносіцца змяненні і дапаўненні, што канкрэтызуюць яго асобныя палажэнні, якія прымаюцца па згодзе Бакоў.

42. Прадпрыемствы і арганізацыі ў адпаведнасці з дзеючымі нарматыўнымі актамі, калектыўнымі дагаворамі адлічваюць не менш чым 0,15 працэнта ад фонду аплаты працы прафсаюзным органам для правядзення культурна-масавых і спартыўных мерапрыемстваў, прапаганды здаровага спосабу жыцця і адраджэння нацыянальнай культуры.

43. Прафсаюзы ўдзельнічаюць у перагаворах па прыватызацыі прадпрыемства, прыняццю і змяненню статута прадпрыемства.

44. Бакі рэкамендуюць уключаць у галіновыя тарыфныя пагадненні і калектыўныя дагаворы наступныя палажэнні:

аказанне дапамогі ў працаўладкаванні або перанавучанні выслабаняемых работнікаў;

выплату са сродкаў наймальніка сям'і работніка, які загінуў на вытворчасці, акрамя ўстаноўленай законам кампенсацыі ўрону, аднаразовай кампенсацыі ў памеры не менш 10 сярэднегадавых заробкаў загінуўшага, а работніку, які страціў працаздольнасць у выніку няшчаснага выпадку на вытворчасці або прафесіянальнага захворвання, — аднаразовай кампенсацыі ў памеры аднаго сярэднямесячнага заработку за кожны працэнт страты працаздольнасці;

выплату наймальнікамі ў адпаведнасці з заканадаўствам кампенсацыі за маральны ўрон незалежна ад іншых відаў урону, якія падлягаюць кампенсацыі;

недапушчэнне зніжэння ўдзельнай вагі заработнай платы ў сабекошце прадукцыі ў параўнанні з 1995 годам, а таксама ажыццяўленне мераў па стабілізацыі цэн і зніжэнню сабекошту прадукцыі (работ, паслуг);

забеспячэнне дзейнасці прафсаюзных органаў, якія падпісалі гэта Генеральнае пагадненне, у межах сваіх паўнамоцтваў і згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прафесіянальных саюзах»;

пералічэнне ва ўстаноўлены тэрмін членскіх прафсаюзных узносаў на банкаўскія рахункі адпаведных прафсаюзных органаў;

прадастаўленне прафсаюзным органам у бясплатнае карыстанне неабходных для іх дзейнасці памяшканняў, транспарту, сродкаў сувязі, інвентару, абсталявання, забеспячэнне інфармацыяй аб стане спраў у галіне і на прадпрыемствах;

захаванне за работнікамі, выбранымі ў прафсаюзныя камітэты, сацыяльных гарантый, прадугледжаных тарыфнымі пагадненнямі і калектыўнымі дагаворамі для наёмных работнікаў прадпрыемства;

прадастаўленне не вызваленым ад вытворчай работы членам прафсаюзных камітэтаў часу для выканання грамадскіх абавязкаў у інтарэсах калектыву, а таксама на перыяд кароткатэрміновай прафсаюзнай вучобы, удзелу ў рабоце прафсаюзных органаў з захаваннем іх сярэдняга заработку.

45. Гэта Генеральнае пагадненне дапаўняе дзеючае заканадаўства па працоўных і сацыяльна-эканамічных пытаннях і служыць асновай для заключэння галіновых тарыфных (мясцовых) пагадненняў.

46. Палажэнні Генеральнага пагаднення ўключаюць мінімум патрабаванняў, якія не могуць быць зменшаны пры заключэнні галіновых (мясцовых) пагадненняў, калектыўных дагавораў.

47. На працягу тэрміну дзеяння гэтага Генеральнага пагаднення пры ўмове яго выканання прафсаюзы ўстрымліваюцца ад забастовак па пытаннях гэтага Пагаднення, а аб'яднанні наймальнікаў — ад масавых звальненняў.

**ПА ДАРУЧЭННЮ:**

| | |
|---|---|
| **Калегіі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь** | |
| **Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь** | **М. М. ЧЫГІР** |
| **рэспубліканскіх аб'яднанняў наймальнікаў:** | |
| **Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі** | **М. Ф. ЛАЎРЫНОВІЧ** |
| **Беларускага саюза прадпрымальнікаў** | **У. М. КАРАГІН** |
| **Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў** | **М. С. КУНЯЎСКІ** |
| **рэспубліканскіх аб'яднанняў прафсаюзаў:** | |
| **Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі** | **У. І. ГАНЧАРЫК** |
| **Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў** | **А. Г. ЛЫСЕНКА** |

*30 снежня 1995 года, г.Мінск.*

ПОГЛЯД ЗНУТРЫ

# «ПАЛАЧКА» МОЖА СТАЦЬ «ДРЫНАМ», ЯКІ ЗРОБІЦЬ НАРОД ІНВАЛІДАМ

**Прадстаўляем калегу**

***Прыступіў да работы наш уласны карэспандэнт па Магілёўскай вобласці Васіль ЛЕУЧАНКА. 42 гады, беларус, адукацыя вышэйшая, журналіст, раней працаваў у газеце «Советская Белоруссия». Прапануем яго нататкі з бальнічнага ложка, на якім увогуле ён правёў летась аж паўгода.***



Бяда не ходзіць адна. Тым не менш, развітваючыся з «чэлюскінцамі» (так на бальнічным жаргоне называюць пацыентаў аддзялення тваравай хірургіі), ніяк не думаў, што траплю з агню ды ў полымя.

Забалела праз колькі часу ў левым баку. Грашыў на сэрца. Меркаваў, што гэта вынік перанесеных аперацый, соцень уколаў і пілюль. Потым, калі скруціла так, што не разагнуцца, і «хуткая дапамога» мяне зноў прымчала ў белы стацыянар, урач здзіўлялася: якія ж усё-такі мужчыны легкадумныя, калі справа тычыцца ўласнага здароўя. Адчуў дрэннае — не цягні, звяртайся да медыкаў. Між тым, пераважная большасць кліентаў і хірургіі, і іншых аддзяленняў бальніц, дзе давялося затым «кантавацца», якраз і вызначаліся нейкай заліхвацкай пагардаю да сябе. Разнясе ад хворага зуба шчаку — будзем цярпець, «абязбольваючыся» гарэлкай, але да ўрача ні-ні. Аж да пары, калі дзеля выратавання прыйдзецца падставіць пад скальпель чэрап.

У нашай палаце на сем ложкаў — што ні чалавек, то дэтэктыўная гісторыя па п'янай, звычайна, лавачцы. Грузчык магазіна, пасварыўшыся з жонкай, пайшоў з двара, заліў, як кажуць, вочы і загрымеў у нейкую будаўнічую траншэю. Сам ён аб гэтым здарэнні памятае цьмяна. У бальніцу, пакуль не праспаўся, не звяртаўся. За гэты час на падбародку развіўся такі фурункул, што перакрыў рот. Калі гэты нарыў ускрылі, адтуль выйшаў... кавалак драўніны.

Адкушаны язык, паламаная пераносіца, адарванае вуха — паверце, не самае горшае, з чым сустракаюць хірургі адчайных «чэлюскінцаў». Што цікава, яны п'юць і ў бальніцы, як толькі пачынае дазваляць горла.

Прымаюць моцныя напоі «ад глістоў» не толькі ў хірургіі. У туберкулёзным дыспансеры тая ж бяда. Быў такі выпадак. пайшлі два пацыенты раніцай на прагулку і на цэлы дзень зніклі. Аказваецца, у прыбальнічным лесе, дзе любяць сустракацца нелегальныя закаханыя, яны знайшлі пад арэшынай пачак грошай. Дзяліцца з таварышамі па аддзяленню хлопцы не сталі, а вырашылі цішком прапіць знаходку . Набраліся — балазе, ларок з «пойлам» побач — да страты здольнасці самастойна рухацца. Як такіх лячыць?

У пульманалогіі памёр юнак: пад кропельніцу ён лёг у пахмельным стане. Пакаралі медсястру, бо павінна была заўважыць. Але сам пра што думаў?

Я не ўзяўся б за пяро, калі б размова ішла толькі пра п'янства (на гэтую няўдзячную тэму напісана нашым братам больш чым шмат). Да нас, што яшчэ страшней, падпаўзае хвароба, характэрная для Расіі і яе ўскраін у мінулым стагоддзі, але да апошніх рыначных рэформаў пра яе нават не гаварылі: не было, як кажуць, такога пытання. Між тым медыкаў, магілёўскіх у прыватнасці, туберкулёз зараз моцна непакоіць.

Тамара Батура, урач тубдыспансера, лічыць, што трэба аднавіць дзеянне інструкцыі, згодна з якой належала б абследаваць насельніцтва на прадмет каварнай «палачкі» з той жа перыядычнасцю, што была не ў самыя горшыя савецкія часы. Інакш гэтая палачка можа стаць «дрынам», які пакалечыць народ, зрабіўшы людзей інвалідамі.

П'янства — прычына, вядома, ускосная. Яго можна назваць і вынікам цэлага комплексу фактараў, якія заганяюць чалавека ў беспрасветнае жыццё. Моцныя духам — гэта хутчэй выключэнне, чым правіла, а многіх суграмадзян жыццё ламае, штурхае на дно бутэлькі, чым, да слова, бессаромна карыстаюцца камерсанты, якія літаральна затапілі гарады і вёскі хмельным зеллем. Ад ужывання сурагатаў, вырабленых на тэхнічнай аснове, чалавеку цяжка спыніцца: папіў вады — і зноў павяло, арганізм просіць дабаўкі. У той жа час насельніцтва хранічна недаядае або набівае жываты прымітыўнай і малакаларыйнай ежай — бульбай, капустай, хлебам... Такой колькасці дыстрофікаў, як зараз, медыкі (нават пенсіённага ўзросту) яшчэ не бачылі.

Для поўнага набору сухотных кампанентаў не хапае толькі бруду. З гэтым тым больш праблемы няма. Санітарыя на вуліцах і ў грамадскіх месцах — як падчас разрухі. Гандляркі на вуглах прадаюць малако, яйкі і іншыя прадукты харчавання, 99 працэнтаў якіх не правяраюцца. У забягалаўках посуд мыюць халоднай вадой: цяжка з энергарэсурсамі. На транспарце цесната такая, што пасажыры вымушаны ледзь не цалавацца, вядома ж, не ад прыязных пачуццяў.

Чаму б і не размнажацца палачцы? «Падлавіць» усюдыісную бактэрыю зараз можна дзе заўгодна.

Не думаю, каб аўтар гэтых радкоў або, напрыклад, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, славуты кіраўнік «Рассвета» Васіль Канстанцінавіч Старавойтаў, які ляжаў у палаце паверхам ніжэй, жылі бязладна, але факт застаецца фактам: у знаходжанні ва ўстанове, адна назва якой успрымаецца на бытавым узроўні самі ведаеце як, прыемнага мала — хоць з плеўрытам ляжы, хоць з бранхітам.

Дарэчы, стан нашай медыцыны Старавойтаў цэніць высока. На пытанне, чаму ён не паехаў лячыцца куды-небудзь у Сіцылію, як Максім Горкі, Васіль Канстанцінавіч адказаў: тут добрыя ўрачы і выдатны дыягнастычны цэнтр.

Што праўда — тое праўда. Але 30-хвілінная праверка аднаго хворага ў гэтым цэнтры каштуе мільён рублёў.

Гэтыя грошы дзяржава бярэ з кашалька падаткаплацельшчыка, які, паўтараю, недаядае, п'е чорт ведае што і ўсё часцей круціць самакруткі ці падбірае «бычкі».

А ўрачы... Падчас дзяжурстваў яны сумежнікі паняволі: на ўсю ноч доктар адзін і на тэрапеўтычнае аддзяленне, і на уралогію, і на ўласна туберкулёзны корпус, і г. д.

Цеснавата, як у маскоўскіх камуналках. Ізаляваць заразнага хворага — цяжка. На «мармышцы», г. зн. бронхаскапіі, пацыенты са слабымі нервамі губляюць прытомнасць. Толькі таму, што яны вымушаны назіраць, як папярэднік б'ецца на стале ці то ад козыту, ці то ў перадсмяротнай агоніі. Жартаўнікі нават «страшылку» склалі:

Мішка аднойчы пайшоў на «мармышку» —
Больш у бальніцы не бачылі Мішку.

А ў цэлым цяжкасці медыцыны — толькі частка праблемы, і то нязначная. Калі б нашы лячэбныя ўстановы былі аснашчаны найноўшым абсталяваннем і забяспечаны выключна прафесарамі — хворых паменела ненамнога. Бо медыкі, як кажуць, страляюць наўздагон поезду, які пайшоў, тушаць тое, што ўжо гарыць.

У Швецыі, ёсць такія звесткі, перасталі рыхтаваць зубных урачоў, бо ў іх адпала патрэба. Культура жыцця такая, што захварэць, скажам, на карыес, трэба яшчэ ўмудрыцца. Мы ж, відаць, ідзём пакуль у адваротным напрамку, укладваючы, хоць і мізэр, у медыцыну, а не ў людзей. У чым і нонсенс.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА,**
**уласны карэспандэнт «Звязды».**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ДАВЕДАЦЦА, ЧЫМ ЖЫВУЦЬ У ПРАВІНЦЫІ

Ёсць такі выраз: «жывы святым духам». Тлумачу: глянуў чалавек на сонейка — і хораша яму, з'еў акрайчык хлеба — і на гэтым дзякуй. Максімальная незалежнасць ад запатрабаванняў свайго арганізма. Відаць, прыхільнікамі спартанскай філасофіі стала значная колькасць беларусаў, бо праклён «каб ты жыў на адну зарплату» ў наш час трывала ўкараніўся.

Што там казаць, і раней многія жылі на адну зарплату. Толькі ў якасным выражэнні сканаўшая зарплата была куды больш важкая. Не выпадкова ж пажылыя людзі і дагэтуль патрабуюць вярнуць рублёвую каўбасу і пенсію ў некалькі дзесятак. Бо яе ж хапала. І за кватэру заплаціць, і на гасцінец унуку, і сабе на хлеб з маслам. Больш таго, з зарплаты звычайнага рабочага можна было зрабіць зберажэнні. Сёння ж на кніжку не пакладзеш, бо, па-першае, страшна (а як зноў падмануць), па-другое, няма чаго і класці. На што можа хапіць зарплаты паштальёна ў памеры 400 тысяч у месяц? А калі яе яшчэ і затрымліваюць? У раённым цэнтры Міёры, што на Віцебшчыне, самая танная вараная каўбаса каштуе 33 тысячы. І гэта без нацэнкі, бо ў фірменным магазіне мясакамбіната прадаецца. Дарэчы, мясакамбінат, дзе раней працы было — не прадыхнуць, сёння амаль стаіць. Завязуць у дзень нейкія тры-чатыры тушы на вялізны калектыў, а астатні час людзі без работы сядзяць, але дамоў не адпускаюць, і на працоўным месцы заняцца нечым. Тое ж самае і на іншых прадпрыемствах. Вялізны камбінат бытавога абслугоўвання насельніцтва стаіць. У фотаатэлье і цырульні чэргі былі гадоў дзесяць таму.

Сёння ж у атэлье індывідуальнага пашыву працуюць два закройшчыкі і дзве швачкі. Адзенне старое людзі данoшваюць, самі перашываюць. Але ці ж ім стрыгчыся нятрэба? Вядома, галота на выдумку здатная. Асабліва, калі на шалях ляжаць кавалак хлеба і нажніцы цырульніка. Мы самі пастрыгчыся зможам. Глядзіш, фестываль прычосак майстроў-самавукаў хто наладзіць.

Вялікая справа — гаспадарка. Усё ж і бульбіну выкапаеш, і моркву вырвеш, і ўласнай свінінкай пачастуеш.

Зразумела, кожны дзень мясам не наласуешся, бо парсючок есці таксама хоча (мех камбікорму 400 тысяч каштуе), ды і гадуецца ён не менш як паўгода.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*СЯМ'Я ГОДА*

# СЯМ'Я, ДЗЕ КОЖНЫ ВЫБРАЎ СВАЮ НОТУ

**У сям'і Сальнікавых усе дзеткі — Алена, Аляксей, Сяргей, Вераніка, Дзяніс — праходзяць выхаванне музыкай. У гэтай сям'і інакш нельга: тата, Валерый Паўлавіч, дырэктар Чысцінскай музычнай школы, мама, Ірына Мяфодзьеўна, выкладчыца па фартэпіяна. Але што такое сапраўдная сям'я можна адчуць толькі тады, калі Сальнікавы ўсім саставам выходзяць на сцэну.**



Як цудоўны музычны калектыў іх адкрылі ў 1993 годзе на першым фестывалі сямейных ансамбляў. І пайшла-пакацілася канцэртная слава. Дзе б яны ні выступалі — ці то ў вясковых клубах, ці на прафесіянальнай філарманічнай сцэне — прымалі так цёпла і шчыра, як, можа, не кожную эстрадную зорку сустракалі б. І песні ў іх цудоўныя — Валерый Паўлавіч вельмі адказна падыходзіць да складання рэпертуару, сам піша музыку, робіць аранжыроўкі. Інструменты ў ансамблі гучаць самыя розныя. Кожны з дзяцей выбраў свой інструмент.

Але можа нават не так музычнае харaство кранае пры сустрэчы з Сальнікавымі, як сямейная еднасць. Прыклад выхавання вялікай шматдзетнай сям'і, якая не скардзіцца на час і нястачы, а спявае, ды яшчэ і іншым аддае сваё цяпло.

Днямі сямейны ансамбль Сальнікавых вярнуўся з Санкт-Пецярбурга, дзе прадстаўляў Беларусь на другім міжнародным фестывалі сямейнай творчасці. Дзеля такой падзеі Аляксея, які зараз служыць у войску, адпусцілі на некалькі дзён з бацькамі. Гэта ж не жартачкі — абараняць гонар сваёй краіны. Няхай і не ў вайсковай форме, а ў самай што ні на ёсць беларускай кашулі-вышыванцы ды саламяным капелюшы. Дарэчы, усе саламяныя ўпрыгажэнні Сальнікавы таксама робяць самі. Бывае, сядзяць, падбіраюць саломінку да саломінкі, а суседзі толькі здзіўляюцца: шукаюць людзі клопату на сваю галаву. Затое як потым увесь пасёлак праводзіў іх за мяжу — у Расіі пра Беларусь расказаць!

А расказваць вельмі хацелася, хоць і часу на выступленне кожнага калектыву было адведзена няшмат. Угаварылі арганізатараў, дабавілі некалькі хвілiначак, не перапынілі выступлення. Такая ўжо наша краіна асаблівая, што так і льюцца словы пра яе ад самага сэрца. І публіка ў зале слухала з замілаваннем, і члены журы пераглядваліся: ну і беларусы, ну і таленты...

Спадабаліся Сальнікавы ў Пецярбургу, і на наступны год іх туды запрасілі — ужо як ганаровых гасцей фестывалю. Для іх такія сустрэчы вельмі прыемныя, асабліва таму, што на чужой зямлі неяк востра адчувалася патрэбнасць роднай мовы. Там, далёка, яна як сяброўка, па якой сумуеш, калі няма побач. А яшчэ падчас сустрэч і фестываляў прыходзіць пачуццё свайго Дома. І радасць за сваю зямлю...

Акрамя пачуццяў тата з мамай Сальнікавы прывязуць да хаты кожнаму з дзяцей па кніжцы — падарунак ад дзядзькі Міністра. Пяцігадоваму Дзянісу Анатоль Бутэвіч перадаў самую вялікую кніжку, каб хутчэй даганяў сваіх брацікаў і сястрычак і не цураўся жыццёвай навукі. А з Пецярбурга Сальнікавы прывезлі Ганаровую грамату галоўнаму спонсару, які выправіў іх на фестываль, — Міністэрству культуры і друку Беларусі.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Не плацяць не толькі бедныя

***З надыходам халадоў, пачаткам ацяпляльнага сезона пачала імкліва расці колькасць неплацельшчыкаў за кватэры і камунальныя паслугі. Па Віцебскай вобласці колькасць тых, хто не можа разлічыцца своечасова з камунальнымі службамі, складае ўжо каля 30 працэнтаў, а сама запазычанасць вырасла да 5 мільярдаў рублёў. Значна меншыя гэтыя лічбы ў буйных гарадах, там, дзе бюджэты яшчэ неяк трываюць.***

Зразумела, што не могуць разлічыцца з камунальнымі службамі найперш маламаёмныя грамадзяне. І тут аб'яўленая дзяржавай падтрымка безнаяўнымі жыллёвымі субсідыямі не вырашае ўсіх праблем. Па вобласці са жніўня па снежань іх налічана толькі каля мільярда рублёў.

Але з'явілася і яшчэ адна тэндэнцыя: сярод неплацельшчыкаў, прычым такіх, хто завінаваціўся сотні тысяч рублёў, выяўляецца вельмі шмат людзей забяспечаных — камерсантаў, кіраўнікоў.

У некаторых раёнах мясцовыя газеты нават пачалі друкаваць спісы неплацельшчыкаў за камунальныя паслугі, каб хоць неяк паўздзейнічаць на суграмадзян.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

## У выцвярэзніку марацць...

***Звыш пятнаццаці тысяч чалавек пабывала летась у гомельскім выцвярэзніку, што значна больш, чым у адпаведным перыядзе мінулага года. І калі з гэтым паказчыкам ва ўстанове больш-менш нармальна (маўляў, расцём, браткі, расцём), дык з другім, як кажуць, не вельмі.***

Што маецца на ўвазе? Пры тым росце і пры поўнай загружанасці медвыцвярэзніка ён сябе не апраўдвае эканамічна. Бо дзевяноста тысяч «зайцоў» за кожнае наведванне яго тым ці іншым п'янтосам па сённяшнім часе ніяк не могуць пакрыць выдаткаў на іх абслугоўванне.

Да таго ж паспрабуй яшчэ спагнаць тыя дзевяноста тысяч з кліента, калі ён беспрацоўны. А такіх сюды было дастаўлена сёлета звыш 8 тысяч чалавек. Вось чаму супрацоўнікі медвыцвярэзніка поўныя такіх добрых думак: беспрацоўным — работу. Высокааплатную.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*ПРАГНОЗ*

# АСОБУ СПІКЕРА ВЫЗНАЧАЦЬ ВЫНІКІ БАРАЦЬБЫ ЗА НЕЗАЛЕЖНЫХ ДЭПУТАТАЎ

Сённяшнія падзеі на сцэне палітычнага тэатра Беларусі нагадваюць зацішша перад самай грандыёзнай прэм'ерай новага сезона: бачна толькі, як калышацца заслона, вядома сюжэтная лінія першай дзеі спектакля — выбранне спікера новага беларускага парламента. Таму гледачы, якія больш-менш знаёмы са сцэнарыем, з нецярплівасцю чакаюць, калі ж гэта заслона нарэшце паднімецца і стануць вядомы выканаўцы галоўных роляў, а таксама пакажуць дэкарацыі будучай палітычнай дзеі. Больш нецярплівыя гледачы — журналісты не могуць устрымацца ад спакусы зазірнуць у закуліснае жыццё, «перамыць костачкі» акцёрам, як ужо масцітым, так і дэбютантам, пагадаць наконт здольнасцей выканання імі мяркуемых партый, пракаменціраваць так ці інакш падзеі. Наўрад ці трэба вінаваціць журналістаў за іх прагу да прагнозаў, бо тэатральныя крытыкі існавалі заўсёды, і ў большасці выпадкаў яны фарміравалі думку грамадскасці пра гарадскі тэатр.

Нельга не пагадзіцца з выказваннямі наглядальнікаў, што найбольш актуальнай тэмай сучаснага закуліснага жыцця беларускага парламента з'яўляецца фарміраванне фракцый у парламенце. Падсумаваўшы апошнія падзеі, іх можна налічыць ужо ажно шэсць, чатыры з якіх з'яўляюцца партыйнымі. Як вядома, у Вярхоўны Савет абраны 95 так званых незалежных дэпутатаў. Гэтая пакуль аморфная маса, не звязаная партыйнай прыналежнасцю, і з'яўляецца спакуслівым кавалкам практычна для ўсіх фракцый, асабліва для тых, якія поўнасцю фарміруюцца з ліку «безгаспадарных» дэпутатаў. Бітва за «бясхозных» дэпутатаў вядзецца моцная. Кожная фракцыя называе такія лічбы, з якімі яна мяркуе прыйсці на прамежкавы фініш — 9 студзеня, — што, неяк склаўшы іх, я атрымаў лічбу, што вельмі перавысіла рэальны састаў сённяшняга дэпутацкага корпуса. Так, жаданні не заўсёды супадаюць з рэчаіснасцю і з магчымасцямі.

Камуністы маюць у парламенце 42 чалавекі, але ўпэўнены ў сваім аўтарытэце і папулярнасці сваёй партыі і яе ідэй, а таксама, моцна падагрэтыя перамогай сваіх расійскіх калег на чале з Генадзем Зюганавым, разлічваюць прыцягнуць на свой бок яшчэ нямала дэпутатаў. Яшчэ нядаўна камуністы нават разлічвалі, што ў Вярхоўным Савеце будзе існаваць адзіная фракцыя ПКБ і АП. Але час распарадзіўся такім чынам, што аграрнікі пад кіраўніцтвам Шарэцкага спрацавалі на ўласны імідж і стварылі ўласную групоўку ў парламенце, нярэдка дэманструючы сёння такія палітычныя погляды і пазіцыі, якія разыходзяцца з пэўнай дагматычнасцю многіх аднадумцаў таварыша Новікава. Фракцыя Аграрнай партыі, маючы спачатку 33 дэпутатаў, напярэдадні Новага года ўжо паспела перацягнуць на свой бок яшчэ больш як пятнаццаць дэпутатаў. Фактычна, калі камуністы занялі ў парламенце левы фланг, дык аграрнікі паспяхова пераадольваюць свой ранейшы імідж «сельскіх камуністаў» і паступова прасоўваюцца бліжэй да цэнтра. Гэта і выклікае сімпатыі беспартыйных дэпутатаў.

Тым часам левацэнтрысцкую нішу, на якую прэтэндуе фракцыя Аграрнай партыі, упэўнена занялі дэпутаты, выбраныя ад блока «Сацыял-дэмакратычны саюз». Маючы толькі 12 выключна «сваіх» парламентарыяў, гэтая фракцыя, якая таксама пажадала быць самастойнай, вялікія надзеі ўскладае на тое, што ідэяй сацыял-дэмакратыі перацягне на свой бок частку дэпутатаў з умеранымі палітычнымі поглядамі.

Аналагічныя спадзяванні і ў фракцыі «Грамадзянскае дзеянне», арганізаванай на аснове аднайменнага палітычнага блока, што быў створаны напярэдадні паўторных выбараў, і, у прыватнасці, на аснове Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Толькі ў гэтым выпадку той цукеркай у прыгожай паперцы, якой «ГД» хоча спакусіць асцярожных дэпутатаў, з'яўляюцца ідэі лібералізму і рынкавых рэформаў. Ды і што душой крывіць, «Грамадзянскае дзеянне» фактычна з'яўляецца парламенцкай апазіцыяй у заканадаўчым органе, нейкага кшталту прытулкам для непрымірымых і іншадумцаў. Таму не выключана, што рост колькаснага саставу гэтай фракцыі можа працягвацца даволі доўга. Ва ўсякім разе, ужо 20 снежня мінулага года «Грамадзянскае дзеянне» аб'яднала пад сваім дахам акрамя сваіх 16 дэпутатаў яшчэ сем іншых.

Існаванне вялікай колькасці беспартыйных дэпутатаў справакавала на стварэнне фракцыі незалежных дэпутатаў. Першым гэтую ініцыятыву выказаў Мечаслаў Грыб, больш канкрэтызаваў выказванне свайго калегі дэпутат Анатоль Красуцкі, які нават выступаў на прэс-канферэнцыі, прадстаўляючы фракцыю незалежных дэпутатаў. Але паняцце незалежнага дэпутата настолькі шырокае, што рэальных магчымасцей для стварэння такой фракцыі пакуль не бачна. Незалежны дэпутат так і застанецца незалежным. Ды і што можа аб'яднаць такіх незалежных дэпутатаў, як Кебіч, Грыб ці, скажам, Шушкевіч? Такім чынам, калі і будзе існаваць такая фракцыя, то яна заўсёды будзе самай непрадказальнай у плане прыняцця палітычных і эканамічных рашэнняў і з цягам часу будзе асуджана на палітычную смерць. Яна будзе добра лавіць вецер перамен і ў залежнасці ад масавасці хістаць беларускі парламенцкі карабель з аднаго боку ў другі.

Больш рэальным выглядае стварэнне парламенцкай фракцыі пад рабочай назвай «Салідарнасць», ініцыятарам якой выступіў старшыня Народнай партыі Віктар Цярэшчанка. У свой час, пакінуўшы пасаду начальніка ўпраўлення па справах тэрыторый Адміністрацыі Прэзідэнта, В.Цярэшчанка даў інтэрв'ю карэспандэнту «Інтэрфакса», якое было надрукавана амаль ва ўсіх цэнтральных газетах Беларусі. У інтэрв'ю, нягледзячы на нядаўнія непрыемныя для яго падзеі, па-ранейшаму выказваюцца непрыхаваныя сімпатыі да Прэзідэнта. Вось што кажа В.Цярэшчанка: «Я не за «чырвоных» і не за «белых», а за правядзенне тых рэформаў, якія пачаў А.Лукашэнка. Мэта партыі — усяляк дапамагаць ў гэтым Прэзідэнту. Кандыдаты на парламенцкіх выбарах ад нашай партыі — гэта кандыдаты Прэзідэнта». Пакуль не чуваць, каб сам Аляксандр Лукашэнка заяўляў аб стварэнні ў парламенце фракцыі, якая б прадстаўляла яго інтарэсы, хаця яго жаданне мець сваё лобі ў заканадаўчым органе наўрад ці трэба яшчэ абмяркоўваць. Таму нічога дзіўнага не будзе, калі вакол «кандыдата Прэзідэнта» Віктара Цярэшчанкі згрупуецца частка прадстаўнікоў так званай прэзідэнцкай «вертыкалі», якіх, як вядома, налічваецца 37. Такая фракцыя будзе добра падтрымлівацца Аляксандрам Лукашэнкам, ёй можна прагназіраваць працяглае жыццё.

Другая надзвычай папулярная на сённяшні дзень тэма журналісцкіх выступленняў — персона будучага спікера беларускага парламента. Размовы аб ёй пачаліся, бадай, адразу ж пасля таго як гэты парламент з'явіўся. І несумненна, што гэтая тэма будзе самай актуальнай да таго часу, пакуль пасада кіраўніка Вярхоўнага Савета будзе заставацца вакантнай. Сёння наглядальнікі і палітолагі спрабуюць спрагназіраваць развіццё падзей у новым заканадаўчым органе і з той ці іншай доляй упэўненасці называюць нямала прозвішчаў, якія могуць рэальна прэтэндаваць на спікерскі «трон». Але падсвядома кожны разумее, што, урэшце, выбар будзе залежаць ад настрою абраных дэпутатаў, тых, каму 9 студзеня прыйдзецца непасрэдна вырашаць гэтае пытанне.

Суб'екты палітычнага жыцця Беларусі — партыі, фракцыі парламента, Прэзідэнт — вядуць сёння перамовы, у якіх асобе спікера ўдзяляецца асаблівая ўвага. Але да гэтага часу размовы больш ішлі не канкрэтна пра якую-небудзь асобу, а пра якасці, якімі павінен валодаць Старшыня Вярхоўнага Савета. І тут прадстаўнікі нават процілеглых палітычных плыняў застаюцца аднадушнымі. Паспрабаваўшы сістэматызаваць іх выказванні, бачыш, што патрабаванні гэтыя вельмі высокія і значна абмяжоўваюць кола прэтэндэнтаў, таму не выключана, што ў момант выбару частка неабходных якасцей будзе элементарна праігнаравана. Вядома, ідэальных людзей не існуе. Яшчэ больш складана выбраць ідэал сярод 197 чалавек.

Звычайна сярод найбольш важных якасцей будучага спікера называюцца прафесіяналізм, вопыт аналагічнай дзейнасці, прадказальнасць, палітычная кампраміснасць. Гэтыя якасці можна лічыць вызначальнымі, і на іх у першую чаргу будзе звяртацца ўвага. Але існуе яшчэ шэраг патрабаванняў да спікера, якія могуць быць праігнараваны большасцю дэпутатаў у час вырашальнага галасавання. Гэта, у прыватнасці, красамоўства, валоданне беларускай мовай, выдатны фізічны стан, адпаведнасць сімпатыям Прэзідэнта. Існаванне гэтых якасцей якраз будзе залежаць ад абставінаў у парламенце і ў краіне напярэдадні выбараў спікера.

Зрэшты, ёсць тры фактары, якія могуць тым ці іншым чынам паўплываць на выбранне старшыні. Па-першае, гэта ўжо створаныя парламенцкія фракцыі, якія могуць вызначыць імя спікера яшчэ нават да галасавання шляхам узаемных кансультацый і элементарнага палітычнага гандлю. Прычым тут магчымы гандаль ужо і месцамі намеснікаў спікера. Прасачылася інфармацыя, што камуністы мяркуюць вылучыць або С.Калякіна, або В.Новікава, але канчатковае рашэнне будзе прынята 6 студзеня на пленуме ЦК ПКБ. Да таго з фракцыі аграрнікаў цвёрда ўпэўнены, што іх лідэр зойме месца спікера. Другі фактар — Прэзідэнт. Безумоўна, Аляксандр Лукашэнка зацікаўлены мець на чале заканадаўчай улады чалавека, які б прыслухоўваўся да яго думкі і мог бы скіроўваць дэпутацкі корпус у той бок, які патрэбен Прэзідэнту. Магчыма, у кіраўніка выканаўчай улады нават ёсць на прымеце пэўная кандыдатура, але гэта пакуль трымаецца ў сакрэце. Кансультацыі Прэзідэнта з прадстаўнікамі фракцый ставяць мэтай разведаць настроі ў парламенце і вызначыць рэйтынг гэтага кандыдата. Так, Прэзідэнт, хутчэй за ўсё, аб'явіць аб сваіх сімпатыях тады, калі будзе ўпэўнены ў шанцах свайго пратэжэ. А можа, нават зробіць так, каб ягоная прапанова была выказана вуснамі аўтарытэтнага дэпутата ці фракцыі. Праўда, па некаторых звестках, фракцыі апярэдзілі Прэзідэнта і прадставілі яму спіс кандыдатур, у якім значыцца шэсць прозвішчаў. Называць іх не буду. Па-першае, інфармацыя з неафіцыйнай крыніцы, па-другое, ёсць трэці фактар, размова пра які ніжэй. Гэта — сродкі масавай інфармацыі. Нездарма сёння называецца ў газетах нямала кандыдатур, наконт якіх строяцца здагадкі, вызначаюцца іх шанцы. Але галоўнае —мільгаюць прозвішчы, што вельмі небяспечна для саміх прэтэндэнтаў. Паколькі, як я сказаў вышэй, ужыўшы іх прозвішчы у тым ці іншым кантэксце, успомніўшы адны грахі або заслугі кандыдатаў і ўтаіўшы другія, можна сфарміраваць не толькі грамадскую думку, але і паўплываць на думку тых дэпутатаў, якім прыйдзецца хутка рабіць выбар.

Па сённяшніх публікацыях ў газетах нават можна скласці рэйтынг папулярнасці нашых палітыкаў — прэтэндэнтаў на спікерскі «трон». Такім чынам, зыходзячы з гэтага крытэрыю «беларуская палітычная дзесятка» выглядае наступным чынам:

**Уладзімір Ганчарык, Мечаслаў Грыб, Уладзімір Грыгор'еў, Сяргей Калякін, Іван Каратчэня, Вячаслаў Кебіч, Васіль Новікаў, Васіль Саковіч, Сямён Шарэцкі, Уладзімір Ягораў.**

Але існуе яшчэ і неафіцыйны рэйтынг, у якім знайшлося месца і такім дэпутатам, як С. Багданкевіч, В. Шлындзікаў, С. Шушкевіч і г.д. Праўда, сёння разглядаць іх шанцы на спікерства было б марнай тратай часу, бо пры левай большасці Вярхоўнага Савета гэтыя шанцы практычна роўныя нулю. Адзінае, на што могуць разлічваць дэмакраты, — пасада аднаго з намеснікаў спікера, ды і то толькі пры разумным падыходзе да гэтай справы ўсіх дэпутатаў.

Яшчэ адна даволі важная тэма, якая, тым не менш, пакуль ігнаруецца наглядальнікамі — фарміраванне парламенцкіх камісій і выбранне іх кіраўніцтва. Іх, па папярэдніх звестках, плануецца стварыць трынаццаць. Але незалежна ад колькасці камісій зразумела, што роля гэтых фарміраванняў будзе таксама вызначальнай у рабоце ўсяго парламента, паколькі падрыхтоўка ўсіх законапраектаў — іх непасрэдны занятак. Таму і барацьба за пасады старшынь камісій таксама чакаецца даволі гарачая.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ПАДАТКІ І БЮДЖЭТ НА РОЗНЫХ ШАЛЯХ

## ЦІ ЗАДАВОЛЕНЫ РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ДЗЕЛАВЫЯ КОЛЫ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКАЙ ЦЭНТРА?

Пад эгідай Віцебскага аддзялення Беларускага фонду Сораса і Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў 22-23 снежня ў Віцебску прайшоў другі семінар праграмы, прысвечанай праблемам рэфарміравання эканомікі Беларусі. Ён быў прысвечаны вельмі вострай і актуальнай тэме — падатковай палітыцы ў Беларусі.

Аналізуючы на мясцовым узроўні ўплыў эканамічнай палітыкі, што зыходзіць з цэнтра, удзельнікі семінараў імкнуцца разабрацца ў плюсах і мінусах гэтай палітыкі, усвядоміць свае інтарэсы і выказаць свае меркаванні цэнтру. Назіраючы ход дыскусіі на апошнім семінары, можна адзначыць як настроенасць на пазітыўныя крокі яго ўдзельнікаў (прадстаўнікоў мясцовай улады, кіраўнікоў прадпрыемстваў і фірмаў розных формаў уласнасці, грамадскіх дзеячаў, эканамістаў, банкіраў і інш.), так і пэўны настрой безвыходнасці, калі размова даходзіць да праводзімай цэнтрам эканамічнай і агульнай палітыкі. Становіцца відавочным, наколькі ў малой ступені гэтыя людзі могуць рэальна ўплываць на гэтую палітыку. Тым не менш варта прыслухацца да выказаных заўваг.

Асноўная дыскусія на семінары разгарэлася вакол палажэнняў урадавага праекта змяненняў у падатковай палітыцы Рэспублікі Беларусь на 1996 год. Праект прадставіў намеснік начальніка ўпраўлення падатковай палітыкі Мінфіна Павел Цэхановіч, даклад якога быў апублікаваны ўчора ў «Звяздзе». Да дакладчыка ўзнікла шмат канкрэтных пытанняў, якія пацвярджаюць агульнапрызнаны тэзіс аб тым, што наша падатковае заканадаўства занадта непастаяннае.

Начальнік падатковай інспекцыі Першамайскага раёна Віцебска Людміла Сініца пасля даклада выказала расчараванне, што заканадаўства ў гэтай сферы не будзе спрошчана ў такой меры, як гэта чакалася. Яе падтрымалі і тыя, хто непасрэдна плаціць падаткі, і ўсе, у тым ліку прадстаўнік Мінфіна, сышліся на тым, што наспеў час стварыць Падатковы кодэкс — цэльны і даступны зборнік падатковага заканадаўства. У іншым, відаць, інтарэсы тых, хто плаціць падаткі, і тых, хто іх збірае, разыходзяцца. Сёння асноўнай базай для паступлення падаткаў у бюджэт з'яўляюцца дзяржаўныя прамысловыя прадпрыемствы. На Віцебшчыне ад іх паступаюць 74 працэнты падаткаў.

Аднак, як сведчыць начальнік Віцебскага аблстатупраўлення Уладзімір Тулупаў, аб'ём вытворчасці на іх упаў з 1990 года роўна на 50 працэнтаў. І дзяржсектар апошнім часам, як зазначыла Л. Сініца, неахвотна плаціць падаткі. Няма з чаго, бо прыбытковых прадпрыемстваў вельмі мала. «Мы сёння можам усю прамысловасць арыштаваць, ды няма каму яе прадаць, — гаворыць Л. Сініца. — Кіраўнікі прадпрыемстваў проста згаварыліся не плаціць падаткаў у разліку, што даўгі спішуць... На рахунак буйнейшага прадпрыемства Віцебска — тэлезавода — ідзе толькі шэсць працэнтаў сродкаў — рэшта ідзе на ўзаемаразлікі, бартэр і г. д.» Такім чынам, падатковыя праблемы накладваюцца на агульную эканамічную сітуацыю, якую інакш як крызіснай не называюць.

— Многія прадпрыемствы стаяць з-за таго, што не маглі суадносіць свае расходы з даходамі, гэта выбівала прадпрыемствы з каляіны, яны гублялі абаротныя сродкі, замарожвалі іх у неліквіднай прадукцыі. А падатковая палітыка іх дабівае. Наша падатковая палітыка носіць фіскальны, антыстымулюючы характар. Але і зменшыць падатковы прэс немагчыма, бо пагражае дэфіцыт бюджэту, — зазначае Н. Кавалёва, дырэктар Віцебскай аўдытарска-кансультацыйнай фірмы «Кантролінг». Яна лічыць, што ў Беларусі праводзіцца вельмі жорсткая падатковая палітыка, узровень падатковага ціску ў 1994 годзе складаў больш як 45 працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту — пры аптымальнай лічбе ў 30 працэнтаў. «Высокі ўзровень падатковага ціску і вялікая доля ўскосных падаткаў выклікаюць рост цэн і перакладваюць «запатрабаванні» бюджэту на плечы спажыўцоў», — выносіць свой вердыкт Н. Кавалёва. Слушнасць яго мы адчуваем на ўласным кашальку, калі прыходзім у крамы.

«Эканоміцы сталі не пад сілу такія высокія падаткі», — зазначае Н. Кавалёва, і ў гэтым яна зусім не арыгінальная, з гэтым, здаецца, згодны ўсе, у тым ліку і ўрад.

— Аднак ніхто не прапаноўвае канкрэтных мераў па ўраўнаважванню шаляў, на адну чашу якіх пакладзены падатковы прэс, з той, дзе знаходзіцца бюджэт. Забеспячэнне раўнавагі і дасягаецца за кошт большага ціску на чашу падаткаў, — лічыць начальнік Віцебскага аблстатупраўлення У. Тулупаў. — Неадпаведнасць рэальных магчымасцей фарміравання бюджэту пад планаванне дзяржаўных праграм прыводзіць да далейшага спаду дзейнасці галін народнай гаспадаркі, адмовы ад фундаментальных і тэхнічных распрацовак, пагаршэння становішча сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва і г. д.

— Пасля ўсіх скарачэнняў кіраўніцкі апарат у Віцебскай вобласці вырас на 500 чалавек, — сведчыць начальнік абласной службы занятасці Валерый Купчанка.

Апарат расце, растуць расходы на яго ўтрыманне, толькі якая пры гэтым яго эфектыўнасць? Напрыклад, у той жа сферы кантролю за выкананнем падатковага заканадаўства. Вось як ацэньвае гэта дырэктар аўдытарскай фірмы «Кантролінг» Н. Кавалёва:

— Кантроль за правільнасцю выканання падатковага заканадаўства ў Беларусі ажыццяўляецца Кантрольнай палатай, Дзяржаўнай падатковай інспекцыяй, Службай кантролю Прэзідэнта, кантрольна-рэвізійным упраўленнем Мінфіна, банкамі, ведамаснымі рэвізійнымі аддзеламі, Дэпартаментам цэн, АБЭЗ, Пракуратурай і г. д. Нярэдка ўслед за ведамаснай рэвізіяй на прадпрыемства прыходзіць з праверкай Кантрольная палата, якая следам падключае падатковую інспекцыю, пасля праверкі банкірамі касавай дысцыпліны да выканання абавязкаў прыступае Служба кантролю Прэзідэнта і г. д... За год адзін падаткаплацельшчык можа прайсці дзесятак праверак, другога ж могуць не чапаць 2-3 гады. І тое, і другое ненармальна...

Кафедра эканомікі Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта правяла даследаванне эфектыўнасці прыняцця кіраўніцкіх рашэнняў у эканамічнай сферы на ўзроўні Віцебскай вобласці і прааналізавана фарміраванне бюджэту Кастрычніцкага раёна Віцебска. Сярод галоўных высноў, прадстаўленых кіраўніком кафедры Святланай Гарачавай, такія негатыўныя фактары, як інертнасць і недзеяздольнасць мясцовай улады ва ўмовах асваення рынкавых адносінаў, падтрыманне падатковага прэса на прадпрыемствы, які не садзейнічае развіццю гаспадарча-прадпрымальніцкай ініцыятывы, нязначнае паступленне сродкаў у бюджэт ад прыватызацыі...

Прыватызацыя прыпынена, бізнесмены хаваюць прыбыткі, баючыся іх страціць, прадпрыемствы прастойваюць, людзі не атрымліваюць зарплату, прадстаўнікі выканкомаў мысляць па-старому, стрымліваючы рост бізнесу, усё яшчэ нечага чакаюць. Чакаць можна бясконца, разважалі прадстаўнікі віцебскіх дзелавых колаў, і сыходзіліся на думцы, што без кардынальных зрухаў зверху нічога не атрымаецца. Яны чакаюць гэтых зрухаў ад цэнтра. Толькі ці рашыцца на іх цэнтр, які ўсё яшчэ ўраўнаважвае шалі з падаткамі і бюджэтам і таксама чакае, марудзіць з рэформамі. Ад рэформаў на словах ніхто не адмаўляецца, але на справе робіцца мала. Аднак гэта ўжо праблема не толькі эканомікі, але і вялікай палітыкі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# «СПАЧАТКУ — ЖЫЦЦЁ. ПОТЫМ — ВЯРТАННЕ ЯГО Ў ІНШАЙ ІСНАСЦІ...»



***Пісьменніку Анатолю КУДРАЎЦУ — 60 гадоў***

**З ім гутарыць журналіст Анатоль Мяснікоў**

**ЦІ ПАМЯТАЕЦЕ ВЫ свой першы літаратурны твор? Якое было першае адчуванне, калі ён з'явіўся ў друку? І яшчэ. Вы шмат працавалі ў сродках масавай інфармацыі — у «Калгаснай праўдзе», на Беларускім радыё, у «Літаратуры і мастацтве». Шмат, натуральна, паездзілі па рэспубліцы. Якія найбольш памятныя сустрэчы былі ў той час? З кім з вядомых людзей вы асабіста сябравалі, чыім даверам, спагадай даражылі?**

— Некалі, яшчэ ў педвучылішчы, надрукаваў два ці тры вершы ў бабруйскім «Камуністце». Відаць, было жаданне заявіць пра сябе. Пасля былі армія, паступленне ва універсітэт. З таго, што можна назваць «творчасцю», запомнілася публікацыя «маленькіх апавяданняў» (а па праўдзе — замалёвак з натуры) у «Калгаснай праўдзе» ў 1961 годзе.

... Перадаў рукапіс чалавеку сярэдніх гадоў у сівой аблямоўцы валасоў, занятаму гутаркай з іншым аўтарам, і паехаў «на бульбу». Праз два дні нехта з сяброў-аднакурснікаў прыносіць на поле газету, а ў ёй на бачным месцы мае апавяданні і прыпіска — «На конкурс». Прыемна здзівілі «страшэнны» ганарар — ён складаў ледзь не паўгадавую стыпендыю, і другая прэмія (першую нікому не прысудзілі). Яшчэ большым здзіўленнем было тое, што мяне запрасіў у свой кабінет галоўны рэдактар газеты В. І. Фясько і прапанаваў месца ў аддзеле культуры. Так я трапіў у падначаленне да Сямёна Міхайлавіча Мельнікава — таго чалавека, які прымаў у мяне рукапіс. За суседнім сталом сядзела маладая, энергічная і абаяльная Іна Міцкевіч. Мне прыемна пра ўсё гэта згадваць сёння, у дні сямідзесяціпяцігоддзя газеты, бо «Калгасная праўда» з Якубам Міско, Міхаілам Шыбалісам, Барысам Паўлёнкам — высокімі журналісцкімі аўтарытэтамі — стала для мяне, студэнта-трэцякурсніка, важнейшай школай пазнання — жыцця, журналістыкі, палітыкі, этыкі чалавечых узаемадачыненняў. Я ўжо не кажу пра камандзіроўкі, паездкі па раскіслых вясенне-асенніх дарогах, дзе ўсухамятку, а больш надгаладзь, пра сустрэчы з нявыдуманымі канфліктамі і непрыдуманымі характарамі — гэта невычэрпнае золата для творчага чалавека.

**— Ці стаў хто-небудзь з рэальных асоб правобразам у вашых творах?**

— Безумоўна. Большасць персанажаў маіх твораў у той ці іншай ступені маюць сваіх правобразаў. Праўда, часам гэта ўсяго толькі «цень ад крыла», штуршок для фантазіі. Кажу «безумоўна», бо, відаць, такі характар маёй натуры: спачатку — жыццё, потым — вяртанне яго ў іншай існасці.

**— Чатыры гады вы працавалі ў ЦК КПБ. Тады — 1974—78 гады — быў перыяд праследавання іншадумства, ганенняў на Васіля Быкава, Алеся Адамовіча... Я ведаю дакладна, як вы адстойвалі іх, баранілі ад нападкаў. Хацелася б, каб вы расказалі аб гэтым больш падрабязна...**

— У цэнтральным апараце кампартыі Беларусі я і сапраўды прапрацаваў чатыры гады. Адклікалі туды мяне з пасады галоўнага рэдактара «Мастацкай літаратуры» — маладога, цікавага, перспектыўнага выдавецтва. Сапраўды, часы былі нялёгкія, няпростыя, хаця, калі параўноўваць з сённяшнімі, то яшчэ трэба падумаць, дзе большая «прастата». Не ўхвалялася не толькі іншадумства, а любая нестандартнасць, непадобнасць, сваё разуменне нацыянальнага, гістарычнага, духоўнага, а тым больш, калі пра гэта пачыналі гаварыць, і гаварыць адкрыта. Дастаткова ўспомніць «пошукі ведзьмаў» сярод студэнтаў філфака БДУ ці аспірантаў Акадэміі навук, або факты, калі кнігі некаторых пісьменнікаў — Быкава, Адамовіча, Караткевіча — спачатку друкаваліся ў Маскве і толькі праз колькі гадоў маглі быць надрукаваны ў Беларусі. Маглі быць надрукаваны, а маглі і не. Дык што рабіў Кудравец, працуючы ў аддзеле культуры, сектары літаратуры? Дапамагаў, чым мог дапамагчы. Сёння можна было б сказаць: «Вось ён «я», які ратаваў ці амаль што ратаваў...» Я гэтага не скажу. Усё было нашмат складаней, чым здаецца на першы погляд. Усе пытанні культуры, ды і не толькі культуры, вырашаліся не на тым паверсе, дзе быў аддзел культуры. Аддзел размяшчаўся на чацвёртым паверсе, і вокны яго выходзілі на вуліцу Энгельса — ледзь не над самым домікам Саюза пісьменнікаў, які пасля так неабдумана знеслі, каб не псаваў антураж дабудаванага крыла цэкоўскага карэ. Усе пытанні, а культурна-ідэалагічныя асабліва, вырашаліся на пятым паверсе. Там сядзеў Першы, там сядзелі ўсе сакратары па напрамках. І што датычыць Быкава і Адамовіча, а гэта была зацятая, без афіш і лозунгаў, антыпартыйная апазіцыя, апазіцыя франтавікоў франтавікам, франтавікоў ад акопаў франтавікам ад паліткіраўніцтва, дык вось, як быць з іхнімі творамі ды і з імі самімі, вырашалася ці на вышэйшым паверсе ў Мінску, ці на вышэйшым паверсе ў Маскве. У вертыкальнай сістэме дэмакратычнага цэнтралізму ні інструктар, ні загадчык сектара вырашальнай ролі ніколі не выконваў і выконваць яе яму ніколі не будзе дазволена. На ўсё гэта ёсць «вышэйшыя».

**— Аповесць «Раданіца» і раман «Сачыненне на вольную тэму» — тыя з твораў, за якія, я не сумняваюся, вам не сорамна. Яны былі адразу ж прызнаны як у рэспубліцы, так і ў Саюзе, прынеслі вам вядомасць. І, тым не менш. вы, прабачце, зусім малапладавіты пісьменнік. Чаму?**

— Я і сам не лічу гэта за станоўчае. Відаць, у кожнага свая хвароба: адзін надта пладавіты і шматтомны, другі — наадварот. Але кожны цешыць сябе надзеяй, што можа праз нейкі час Нехта — далёкі нашчадак — захоча ўзяць у рукі маленькі томік Некага, узяць і не адкласці ўбок, зачэпіцца спачатку вокам, а пасля і душой. Не для параўнання, але прыпамінаюцца радкі: «Я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты»...

**— Васемнаццаты год (!) вы — галоўны рэдактар «Нёмана». Прымалі яго ад «самога» Андрэя Макаёнка. Прыгадайце, калі ласка, як гэта выглядала? Ці не маглі б згадаць колькі эпізодаў (вясёлых і не вельмі) з часоў тагачаснага жыцця...**

— Страшна падумаць — васемнаццаць гадоў. Цэлае жыццё! Калі б мне ў 1978 годзе нехта сказаў, што я аддам столькі гадоў часопісу, — не захацеў бы верыць. Ды і цяпер не веру. Але кажуць: «Вочы баяцца, а рукі робяць». А цырымонія перадачы «спадчыны» была даволі празаічная. Прыйшлі Андрэй Макаёнак і Алесь Петрашкевіч — тагачасны загадчык аддзела культуры ЦК КПБ, сабралі калектыў. Загадчык аддзела сказаў: так і так, Андрэй Ягоравіч вырашыў пайсці на «вольны хлеб», часопісу патрэбен новы рэдактар, вось ён перад вамі, вы яго ведаеце, Саюз пісьменнікаў «за», мы «за». Вось і ўсё. «Супраць» ніхто з прысутных не выказаўся.

Заўсёды вясёлы Макаёнак здаваўся вясёлым і ў той сітуацыі, але адчувалася нейкая напружанасць, можа — шкадаванне. Што ж, ён аддаў часопісу трынаццаць гадоў. Калі засталіся ў кабінеце ўтрох, Макаёнак сказаў: «Ну што, даставай з сейфа». Я і дастаў. Узялі па чарцы. Макаёнак пажадаў: «Каб папрацаваў хаця б столькі, як я». Пры тых ідэйнацэнзурных рыфах гэта пажаданне здавалася не больш, чым жартам. Жарт прадаўжаецца і сёння...

**— У «Нёмане» вашых часоў працавалі Міхась Стральцоў, Уладзімір Кудзінаў, Святлана Алексіевіч, іншыя неардынарныя творцы. З імі было лёгка, проста ці, наадварот, — складана? Раскажыце, калі ласка, пра іх і іншых вашых паплечнікаў, вартых увагі, больш падрабязна.**

— Сапраўды, «Нёману» шанцавала на добрых працаўнікоў, добрых рупліўцаў мастацкага слова, за якім, калі браць па вялікаму рахунку, — служэнне Ісціне, служэнне Праўдзе. А хто можа расказаць свету праўду, адстаяць яе, як не творчая асоба, творчы аўтарытэт?! Зноў жа, Праўда — рэч цяжкая, з ёй заўсёды праблемы, і носьбіты Праўды таксама людзі нялёгкія, але, паўтаруся, гэта Асобы, і з імі заўсёды цікава. Вы згадалі Стральцова, Кудзінава, Алексіевіч... За кожным гэтым імем — сваё ўзаранае поле, свая засеяная ніва. Які жаль, што першых двух ужо няма, яны так рана пайшлі і іх адсутнасць адчувае ўся наша літаратура.

Шмат гадоў працавалі ў «Нёмане» Эрнэст Ялугін, Кастусь Тарасаў, Ала Сямёнава, Віктар Карамазаў, Браніслаў Спрынчан. Ды што я кажу «працавалі»? Яны жылі ў «Нёмане» і давалі яму жыццё. А ўзяць цяперашніх «нёманцаў» — Генадзя Бубнава, Алега Ждана, Уладзіміра Машкова, Уладзіміра Ягоўдзіка, Эдуарда Касляровіча, Сяргея Запрудскага... Што прымушае іх за нейкія капейкі (па-іншаму іхнюю зарплату нельга назваць) рабіць сваю справу? Вядома ж, не гэтыя няшчасныя капейкі...

**— У 1979 годзе вы бралі ўдзел у рабоце Генеральнай Асамблеі ААН. Што найбольш уразіла і запомнілася тады?**

— Усе, хто прымаў удзел у рабоце Генеральнай Асамблеі ААН, — і не толькі «прыпісаныя» пісьменнікі, але і дыпламаты, і нават міністр замежных спраў ад Беларусі ўдзельнічалі, скажам шчыра, намінальна. Партыю вёў «старэйшы брат», а беларусы, украінцы ішлі, калі была на тое патрэба, у падгалосках. Мяне ж як чалавека, як пісьменніка «новы свет» ашаламіў сваёй непадобнасцю на нас: калі свабода, то ва ўсім, што хачу, тое і раблю; калі небаскроб — то на ўсе сто паверхаў; калі мост — то на кіламетры; калі горад — то Нью-Йорк; падляталі ноччу, і здавалася, што ўнізе ўся зямля ў агнях, — ні мяжы, ні эканоміі.

**— Шмат гадоў вы ўваходзіце ў састаў праўлення Саюза пісьменнікаў, Камітэта па дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь. Я ведаю: у вас вельмі многа сяброў, дарадчыкаў. Чыім шчырым словам вы даражыце, каму, калі не сакрэт, давяраеце? Ці сустракаліся вам людзі, якім сёння няма ніякага жадання падаць руку?**

— Саюз пісьменнікаў, ды і ўсе творчыя саюзы ў такой, як цяпер, ці іншай форме патрэбны. Хоць бы для таго, каб раз у год ці часцей сабрацца разам, паглядзець адзін на аднаго і адчуць, што болей збірацца не хочацца. Усе ў сябрах хадзіць не могуць, гэта немагчыма і непатрэбна. «Тусоўкі» больш любіць моладзь, а сталыя гады патрабуюць адзіноты. Толькі ў заслоненай душы нараджаецца і спее арыгінальнае слова, думка, вобраз. Пара́ творчых мітынгаў не ў модзе, ды яны ніколі не прыносілі плёну. «Шумим, братец, шумим» — гэта не для творцаў. Пісьменнікі таксама людзі, але ж і чалавек не кожны кожнаму падае руку. Хаця б з меркаванняў гігіены і здароўя.

**— Якімі чалавечымі якасцямі даражыце найбольш?**

— Больш за ўсё цаню прыстойнасць, вернасць слову.

**— Што ненавідзіце?**

— У дачыненні да мужчын - бабскасць. Яна так размазвае чалавека, што зляпіць з яго нешта людскае проста немагчыма.

**— Ці ёсць у вас слабасці?**

— На жаль — шмат. І перш за ўсё — мяккасць характару і ў дачыненні да сябе, і ў дачыненні да іншых.

**— Над чым працуеце?**

— Ёсць некалькі незаконченых рэчаў: рознааб'ёмных і рознажанравых, давесці да толку якія апошнім часам не дае часопіс і тое, што вы называеце словам «слабасць».

**— Галоўны рэдактар часопіса — гэта пасада ці прызванне?**

— Была пасада, стала абавязкам, а вось ці можна гэта назваць прызваннем — не ведаю.

**— Мастацкая літаратура сёння перажывае не лепшыя свае часы. На вашу думку — чаму? Ці дачакаемся мы часу, калі сапраўдныя творцы стануць сапраўдным Гонарам беларускай нацыі, — пры жыцці, а не праз дзесяцігоддзі?..**

— Усё наша грамадства ў глыбокім крызісе. Не толькі, а можа, і не столькі эканамічным. Перш за ўсё гэта крызіс духоўны, страта арыенціраў. Памылковасць старых агульнапрызнана, а новых няма. Там, куды валявым шляхам хоча кіруючая каманда загнаць грамадства, — чарната і тупік. Літаратура — аголены нерв духоўнасці, і яна першая прымае ўдары на сябе. Сёння яна, як муха, пасыпаная дустам. Доза яшчэ не смяротная, і яна тыцкаецца ў розныя бакі, каб вырвацца з атрутнага поля. У самой сілы не хапае, патрэбна дапамога, як і ўсёй культуры. Дапамога магла б прыйсці ад дзяржавы, калі б яна была зацікаўлена ў пошуку духоўнасці, якая непарыўная з нацыянальным, гістарычным, народным. Такой зацікаўленасці пакуль што не бачна. Паўтараецца тое, што было ва ўсе часы: няма пракаў на нашай зямлі! У цане чужыя багі, чужыя пракі. Пра сваіх лепш не ўспамінаць, а калі і ўспамінаць, то тады, калі іх ужо няма. І зразумела: мёртвым нават пенсія непатрэбна.

**— Год назад, у студзені 1995-га, з нагоды юбілею «Нёмана» я напісаў: «Быў час, калі тыраж «Нёмана» дасягаў 178 тысяч (!) экземпляраў, а чыталі яго ажно на Калыме... І нішто сабе жылося: хапала і паперы, і магутнасцей друкарні, і грошай — і на зарплату, і на ганарар...» А як выглядае сітуацыя сёння?**

— Сітуацыя складаная. Тыраж часопіса вагаецца недзе паміж чатырма і пяццю тысячамі. Улічваючы, што кожны нумар стратны і што за межы краіны часопіс практычна не ідзе, плюс эканамічныя цяжкасці — становішча як быццам не безнадзейнае. Думаю, калі дзяржава і далей нас не пакіне, — выжывем. Павінны выжыць.

*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, паэтэса, журналістка*

# Развітанне з годам жанчыны



**— Увесь наш 1995 год згодна з рашэннем ЮНЕСКО лічыўся Годам жанчыны. Ці многія з нас ведалі, памяталі пра гэта сярод выбараў-давыбараў, у пошуках дадатковага прыработку і ў чаканні ацяпляльнага сезона з новымі кватэрнымі цэнамі? «Не да таго», — скажаце вы... і я з вамі не пагаджуся. Найперш таму, што сама жанчына. А яшчэ таму, што не вельмі высокай думкі пра асабовыя якасці і кіраўнічыя здольнасці нашых гаспадароў і абаронцаў. Нагоду выказаць свае думкі — адносна гэтага і многага іншага — мне прадаставіла літаратурна-мастацкая імпрэза «Жанчына я...», што адбылася ў музеі гісторыі беларускай літаратуры. (Для тых, хто не ведае: ён у Траецкім прадмесці).**

Паколькі вечарына і была прысвечана Году жанчыны, то абысці яе ніяк не выпадае. На пытанні вядучага, Дз. Падбярэзскага, разам са мною адказвалі рэктар Беларускага універсітэта культуры Я. Грыгаровіч, выкладчыца Мінскага педагагічнага каледжа В. Раманцэвіч, педыятр, загадчыца аддзялення І-й дзіцячай паліклінікі г. Мінска Г. Пятровіч. Жанчына-кіраўнік, жанчына-педагог, жанчына-медык, жанчына-пісьменніца... Такім чынам, аказаліся «ахопленымі» ўсе асноўныя сферы нашага жыцця. Геаграфія таксама прадстаўлена шырока: Палессе, Магілёўшчына, Случчына, Заходняя Беларусь (менавіта з гэтых мясцін родам усе ўдзельніцы вечарыны).

У дыялогах з вядучым і залай выяўляліся пазіцыя, светапогляд, характар кожнай з жанчын.

— Ваша мара?

— Хачу, каб мае будучыя ўнукі жылі на сваёй зямлі, у незалежнай дзяржаве.

— Калі мы будзем лепей жыць?

— Калі паверым у сябе і пачнём жыць уласным розумам.

— Ці паверыце вы, што мы, мужчыны, зробім ваша жыццё лепшым?

— Толькі з нашай дапамогай!

Але на адно з пытанняў ніводная з нас не змагла адказаць: «Чым запомніўся вам адыходзячы год?» Ну не скажаш жа — рэферэндумам, або тым, як апазіцыю вытурылі з Вярхоўнага Савета, або паганенькім фільмам «Нянавісць», або яшчэ чымся падобным... Ён усім нам запомніцца тым, што быў нялёгкім. З гэтым, думаю, пагодзяцца ўсе мае сучасніцы.

Калі хочуць узвысіць жанчыну, то гавораць пра яе мацярынскую і ахоўную місію, а яшчэ пра яе ўклад у культуру і духоўнасць нацыі. Для большасці нашых суграмадзян апошняе ўяўляецца нечым расплывістым, маларэальным. У нас жа перад фактам эканамічнага крызісу, сацыяльнай няпэўнасці і палітычнай апатыі самі сабой узнікаюць наступныя пытанні: ці не абумоўлены заняпад «базісу» прычынамі больш далікатнага кшталту? Перш чым узводзіць ці хаця б рамантаваць гмах, найперш патрэбны дакладны, прадуманы план, а яшчэ — воля да яго здзяйснення, і аб'яднанне разрозненых сіл, а перадусім — каб мэта была праведнай і сродкі ёй не супярэчылі. Тады і падтрымка звыш будзе забяспечана, без чаго ўсялякі поспех увогуле праблематычны.

Што можам зрабіць мы, жанчыны, у такіх варунках?

Успамінаецца адна газетная публікацыя, дзе аўтар без сантыментаў, прамым тэкстам, што называецца, абмалёўвае сутнасць праблемы: альбо вы слабыя стварэнні, якіх неабходна аберагаць і песціць, і тады вы слухаецеся гаспадара, альбо такія ж, як і мы, чалавекі, і тады з вамі будуць канкурыраваць і змагацца. Ды вось у чым парадокс: у многіх выпадках з намі ўжо канкурыруюць і змагаюцца (асабліва, калі жанчына бярэ на сябе смеласць адстойваць свой пункт гледжання), а крыўдзімся мы ўсё ж чыста па-жаночы. Мабыць, па звычцы...

Што яшчэ можна сказаць наконт гэтай дылемы? Найперш пакіньце нам выбар — быць такімі або іншымі (каму што даспадобы). Выбару, на жаль, грамадскія інстытуты, традыцыі і тыя звычкі (мужчынскія) не прадастаўляюць. Нездарма малады паэт М. Скобла пісаў у «ЛіМе»: «Жанчыны ў нас як нацыянальная меншасць, а меншасцям трэба дапамагаць і рабіць выгляд, што яны з асноўным этнасам нароўні». Вось чаму, падымаючы навагодні бакал з шампанскім, мы маем поўнае права спытаць у нашых мужоў, братоў, сяброў і начальнікаў: «Вы нас паважаеце?»

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**





# ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб адпаведнасці Канстытуцыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Ціхіні В.Г., намесніка старшыні суда Фадзеева В.А., суддзяў Васілевіча Г.А., Кенік К.І., Пастухова М.І., Падгрушы В.В., Серады Н.М., Філіпчык Р.І.

з удзелам прадстаўнікоў:

Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь»: Марыскіна А.У. — начальніка дзяржаўна-прававога ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь; Сукала В.Л. — міністра юстыцыі;

Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які прыняў закон: Булахава Д.П. — старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству; Барысенкі В.А. — начальніка юрыдычнага ўпраўлення Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; Матусевіча А.В. — дырэктара Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства, доктара юрыдычных навук;

эксперта Чудакова М.Ф. — дацэнта кафедры канстытуцыйнага права Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдата юрыдычных навук

разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь».

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел: Царэнка Е.М. — намеснік старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь; Кандрацьеў В.К. — першы намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана 16 кастрычніка 1995 года па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, а таксама па меркаванню Канстытуцыйнага суда на падставе артыкула 127 Канстытуцыі, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь».

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь звярнуўся з прапановай даць заключэнне аб адпаведнасці Канстытуцыі часткі шостай артыкула 11, частак другой і трэцяй артыкула 30 Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь».

Праверцы падлягаў Закон «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995, № 17, арт. 179).

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, эксперта, вывучыўшы Заключэнне Еўрапейскай камісіі за дэмакратыю праз права і іншыя матэрыялы справы, прааналізаваўшы нормы Канстытуцыі і законаў, Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што асобныя палажэнні Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» не адпавядаюць Канстытуцыі, зыходзячы з наступнага.

У адпаведнасці з артыкулам 1 Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава. У артыкуле 3 правяраемага закона ўказанне на тое, што Рэспубліка Беларусь — унітарная дзяржава, адсутнічае.

Згодна з артыкулам 66 Канстытуцыі выбары з'яўляюцца свабоднымі: выбаршчык асабіста вырашае, ці ўдзельнічаць яму ў выбарах і за каго галасаваць. Аднак указаны прынцып у частку другую артыкула 5 Закона не ўключаны.

Не грунтуюцца на артыкулах 104 і 105 Канстытуцыі палажэнні часткі чацвёртай артыкула 11 Закона аб пераходзе паўнамоцтваў Прэзідэнта да Старшыні Вярхоўнага Савета з моманту вынясення заключэння Канстытуцыйнага суда аб парушэнні Канстытуцыі Прэзідэнтам ці заключэння спецыяльнай камісіі аб учыненні Прэзідэнтам злачынства, паколькі такі пераход паўнамоцтваў да Старшыні Вярхоўнага Савета да прынясення прысягі зноў выбраным Прэзідэнтам дапускаецца пры немагчымасці выканання Прэзідэнтам сваіх абавязкаў.

Не адпавядае таксама ўказаным артыкулам Канстытуцыі палажэнне часткі чацвёртай артыкула 11, згодна з якім Вярхоўны Савет павінен прымаць рашэнне аб вяртанні Прэзідэнта да выканання яго абавязкаў.

Часткай шостай артыкула 11 Закона прадугледжана такая падстава датэрміновага спынення паўнамоцтваў Прэзідэнта як недавер Прэзідэнту, прыняты рэферэндумам. Гэтая норма Закона супярэчыць артыкулам 103 і 104 Канстытуцыі, якія змяшчаюць вычарпальны пералік падстаў датэрміновага спынення паўнамоцтваў Прэзідэнта.

Да такой жа высновы суд прыйшоў і ў адносінах да часткі другой артыкула 12 Закона, згодна з якой адмаўленне Прэзідэнта ад урачэбнага агляду з'яўляецца падставай для датэрміновага вызвалення яго ад пасады па стану здароўя.

Нельга прызнаць адпаведнымі Канстытуцыі палажэнні частак трэцяй, пятай, а таксама першага сказа часткі чацвёртай артыкула 12 Закона. Указанымі нормамі ўстаноўлена, што Прэзідэнт (ці, па яго даручэнню, прэм'ер-міністр) у дзесяцідзённы тэрмін абавязаны паведаміць Вярхоўнаму Савету аб немагчымасці выканання сваіх абавязкаў па стану здароўя ў выпадках праходжання лячэння за межамі Рэспублікі Беларусь ці знаходжання ў стацыянарнай лячэбнай установе Рэспублікі Беларусь. Пры невыкананні ў прадугледжаных выпадках Прэзідэнтам указанага абавязацельства паведамленне аб стане яго здароўя ажыццяўляецца адпаведнай медыцынскай установай Рэспублікі Беларусь. З моманту паведамлення аб немагчымасці выканання Прэзідэнтам сваіх паўнамоцтваў па стану здароўя яго паўнамоцтвы па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь выконвае Старшыня Вярхоўнага Савета. Прэзідэнт прыступае да выканання сваіх абавязкаў з моманту паведамлення Вярхоўнага Савета аб сваім выздараўленні.

З артыкула 105 Канстытуцыі вынікае, што немагчымасць выканання Прэзідэнтам абавязкаў павінна мець незваротны характар.

Гэтым жа артыкулам Канстытуцыі прадугледжаны вычарпальны пералік выпадкаў пераходу абавязкаў Прэзідэнта да Старшыні Вярхоўнага Савета.

Вызначэнне ў артыкуле 17 Закона кампетэнцыі Прэзідэнта як «выключнай» не заснавана на Канстытуцыі і не ўлічвае ў поўнай меры наяўнасць у Прэзідэнта паўнамоцтваў як кіраўніка дзяржавы і як кіраўніка выканаўчай улады.

Зыходзячы з аналізу артыкулаў 6, 83, 100 Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што права Прэзідэнта ўносіць у Вярхоўны Савет прадпісанні аб вызваленні ад пасады старшыні Канстытуцыйнага суда, старшыні Вярхоўнага суда, старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда, старшыні праўлення Нацыянальнага банка, замацаванае ў пункце 4 артыкула 18 Закона, не заснавана на канстытуцыйных палажэннях. Прадастаўленне Прэзідэнту такога права парушае ўстаноўлены артыкулам 6 Канстытуцыі прынцып раздзялення ўладаў і не ўлічвае асаблівы, незалежны статус гэтых органаў у сістэме дзяржаўнай улады. Падставы вызвалення ўказаных асоб ад пасады прадугледжаны спецыяльнымі законамі.

Прадугледжаны пунктам 1 артыкула 20 Закона абавязак Прэзідэнта прадстаўляць Вярхоўнаму Савету пры разглядзе ім пытання аб зацвярджэнні рэспубліканскага бюджэту даклад аб становішчы дзяржавы не адпавядае Канстытуцыі. Згодна з пунктам 6 артыкула 100 Канстытуцыі Прэзідэнт прадстаўляе штогод Вярхоўнаму Савету даклад аб становішчы дзяржавы, аднак яго прадстаўленне не звязана з часам разгляду рэспубліканскага бюджэту. З пункта 6 артыкула 100 Канстытуцыі не вынікае, што права вызначаць тэрміны і змест інфармавання Прэзідэнтам Вярхоўнага Савета належыць Вярхоўнаму Савету. Суд мяркуе, што ўказаныя пытанні павінны імі вырашацца па ўзаемнай дамоўленасці. Таму пункт 2 артыкула 20 Закона ў гэтай частцы не адпавядае Канстытуцыі.

Па тых жа прычынах суд прызнае не адпаведнымі Канстытуцыі палажэнні пункта 3 артыкула 20 Закона, згодна з якім Прэзідэнт абавязаны штогод паведамляць Вярхоўнаму Савету аб праграме дзейнасці Кабінета Міністраў на працягу месяца пасля зацвярджэння дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь.

Суд прыйшоў да высновы, што частка другая артыкула 24 Закона ў частцы ажыццяўлення Саветам бяспекі па рашэнню Вярхоўнага Савета функцый дзяржаўнай улады і кіравання пры ўвядзенні надзвычайнага становішча на тэрыторыі рэспублікі ўступае ў супярэчнасць з артыкуламі 6, 79, 83, 100 і 109 Канстытуцыі, а таксама з артыкулам 1 Закона «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь».

Выклікае неадназначнае тлумачэнне рэдакцыя часткі другой артыкула 25 Закона ў частцы вызначэння выпадкаў, калі Прэзідэнт мае права аддаць загад аб пачатку ваенных дзеянняў без аб'яўлення вайны.

Супярэчыць артыкулу 127 Канстытуцыі палажэнне артыкула 28 Закона аб праве Прэзідэнта звярнуцца ў Канстытуцыйны суд па заключэнне аб канстытуцыйнасці прававых актаў любога дзяржаўнага органа, паколькі Канстытуцыяй вызначаны вычарпальны пералік актаў, якія могуць быць прадметам разгляду ў Канстытуцыйным судзе па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Згодна з часткай другой артыкула 31 Закона Кабінет Міністраў арганізуе выкананне ўказаў і распараджэнняў Прэзідэнта, у той час як артыкулам 101 Канстытуцыі гэтыя пытанні ўваходзяць у кампетэнцыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Суд звяртае ўвагу на некарэктнасць рэдакцыі артыкула 32 Закона ў частцы зацвярджэння Вярхоўным Саветам каштарысу расходаў на ўтрыманне Адміністрацыі Прэзідэнта, таму што Вярхоўны Савет павінен зацвярджаць толькі агульны аб'ём фінансавання.

Супярэчыць артыкулу 6 Канстытуцыі частка трэцяя артыкула 38 Закона, згодна з якой іншыя ўмовы забеспячэння, абслугоўвання і аховы Прэзідэнта, дадатковыя правы і гарантыі іх ажыццяўлення ўстанаўліваюцца пастановамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Такія пытанні павінны вырашацца на ўзроўні закона.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128 і 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 11, 36, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

вырашыў:

1. Прызнаць неадпаведнымі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь наступныя палажэнні Закона «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь»:

частку чацвёртую артыкула 11 у частцы ажыццяўлення Старшынёй Вярхоўнага Савета паўнамоцтваў Прэзідэнта з моманту вынясення заключэння Канстытуцыйнага суда ці заключэння спецыяльнай камісіі да вынясення Вярхоўным Саветам адпаведнага рашэння, а таксама прыняцця Вярхоўным Саветам рашэння аб вяртанні Прэзідэнта да выканання абавязкаў; частку шостую ўказанага артыкула;

частку другую артыкула 12 у частцы датэрміновага вызвалення Прэзідэнта ад пасады па прычыне яго адмаўлення ад урачэбнага агляду; часткі трэцюю і пятую, а таксама першы сказ часткі чацвёртай указанага артыкула;

абзац першы артыкула 17 у частцы вызначэння кампетэнцыі Прэзідэнта як выключнай;

пункт чацвёрты артыкула 18;

пункт 1 артыкула 20 у частцы ўскладання на Прэзідэнта абавязку прадстаўляць штогадовы даклад аб становішчы дзяржавы пры разглядзе Вярхоўным Саветам пытання аб зацвярджэнні рэспубліканскага бюджэту; пункт 2 указанага артыкула ў частцы вызначэння Вярхоўным Саветам тэрмінаў і зместу інфармавання па канкрэтных пытаннях; пункт 3 гэтага артыкула ў частцы вызначэння тэрмінаў паведамлення Прэзідэнтам Вярхоўнаму Савету аб праграме дзейнасці Кабінета Міністраў;

частку другую артыкула 24 у частцы ажыццяўлення Саветам бяспекі па рашэнню Вярхоўнага Савета функцый дзяржаўнай улады і кіравання;

абзац трэці артыкула 28 у частцы права Прэзідэнта звяртацца ў Канстытуцыйны суд па заключэнне аб адпаведнасці актаў любога дзяржаўнага органа Канстытуцыі, законам і міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь;

частку другую артыкула 31 у частцы ўскладання Законам на Кабінет Міністраў абавязку па арганізацыі выканання указаў і распараджэнняў Прэзідэнта;

частку трэцюю артыкула 38 у частцы ўстанаўлення пастановамі Вярхоўнага Савета ўмоў забеспячэння, абслугоўвання і аховы Прэзідэнта, дадатковых правоў і гарантый іх ажыццяўлення.

Лічыць нормы Закона, пералічаныя ў гэтым пункце, страціўшымі сілу з дня прыняцця гэтага Заключэння.

2. Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прывесці Закон «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь» у адпаведнасць з гэтым Заключэннем, у тым ліку ўдакладніць рэдакцыю асобных нормаў Закона, узгадніць іх з адпаведнымі палажэннямі іншых законаў.

3. Апублікаваць гэтае Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў тых выданнях, дзе быў апублікаваны Закон «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь».

4. Гэтае Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В.Г. ЦІХІНЯ**

21 снежня 1995 г., г. Мінск
№ 3-28/95

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 524

### Аб назначэнні Ю.Л.Сівакова намеснікам міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь — камандуючым унутранымі войскамі

Назначыць Сівакова Юрыя Леанідавіча намеснікам Міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь — камандуючым унутранымі войскамі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

30 снежня 1995 г.
г.Мінск.

## ЗАЯВА

Як стала вядома дэпутацкім фракцыям і аб'яднанням Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання, якія фарміруюцца, са звароту да нас старшыні Канстытуцыйнага суда В. Г. Ціхіні, высокапастаўлены прадстаўнік Адміністрацыі Прэзідэнта неафіцыйна звярнуўся да старшыні Канстытуцыйнага суда з патрабаваннем падаць у адстаўку. У адваротным выпадку, было сказана Валерыю Ціхіні, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сам здыме яго з пасады спецыяльным указам.

Факт процізаконнага ціску на Канстытуцыйны суд сведчыць аб тым, што пэўныя сілы ў акружэнні кіраўніка дзяржавы штурхаюць яго на новы вiток канфрантацыі з іншымі галінамі ўлады. Такога роду ціск трактуецца артыкулам 126 Канстытуцыі як недапушчальны і цягне адказнасць па закону. Не можа не трывожыць тая акалічнасць, што спробы падобнага ўмяшання мелі месца і раней. Паўнамоцтвы старшыні Канстытуцыйнага суда могуць быць датэрмінова спынены пры наяўнасці адпаведных падстаў толькі Вярхоўным Саветам.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання выказваюць глыбокую заклапочанасць чарговым парушэннем з боку Адміністрацыі Прэзідэнта закладзенага ў Канстытуцыі прынцыпу раздзялення ўладаў. Абвастрэнне выклікае тым большае неўразуменне, што нагнятаецца напярэдадні першага пасяджэння Вярхоўнага Савета новага склікання. Па сутнасці сваёй гэтыя дзеянні аб'ектыўна накіраваны супраць кансалідацыі палітычных сіл і падрываюць самі асновы супрацоўніцтва, закладзеныя ў ходзе нядаўніх перагавораў Прэзідэнта з фракцыямі і аб'яднаннямі дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Дэпутаты выказваюць упэўненасць у тым, што Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка захавае разважлівасць і не пойдзе на крок, які вядзе да дэстабілізацыі сітуацыі. Вярхоўны Савет заклікае ўсе палітычныя сілы дзейнічаць толькі на падставе законаў і Канстытуцыі Рэспублікі.

Фракцыя Аграрнай партыі (48 дэпутатаў), фракцыя Партыі камуністаў (44 дэпутаты), дэпутацкае аб'яднанне «Грамадзянскае дзеянне» (20 дэпутатаў), дэпутаты, якія не ўваходзяць у фракцыі і аб'яднанні (23 дэпутаты).

Усяго 135 дэпутатаў Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання.

***(С. Шарэцкі, фракцыя Аграрнай партыі;***

***В. Новікаў, фракцыя Партыі камуністаў Беларускай;***

***В. Цярэшчанка, дэпутацкае аб'яднанне «Кансалідацыя», кіраўнік ініцыятыўнай групы;***

***А. Лябедзька, дэпутацкае аб'яднанне «Грамадзянскае дзеянне»;***

***М. Грыб).***

# У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

26 снежня пад старшынствам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра адбылося апошняе ў гэтым годзе пасяджэнне калегіі Кабінета Міністраў. На ім разгледжаны пытанні выканання шэрагам міністэрстваў і ведамстваў Пастановы Саўміна ад 7 ліпеня 1994 года № 505 «Аб увядзенні прыборнага ўліку расходу газу, вады і цеплавой энергіі ў дамах жыллёвага фонду рэспублікі», а таксама справаздача аб рабоце Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Марнатраўства яшчэ ніколі не садзейнічала росквіту краіны. А калі гэта так, то трэба навучыцца па-гаспадарску выкарыстоўваць усе наяўныя рэсурсы. Заклікі шчыльна закручваць водаправодныя краны і зачыняць форткі наўрад ці дапамогуць. Неабходна пэўная сістэма, якая дазволіла б кантраляваць кожны выкарыстаны літр вады, кожную гігакалорыю цяпла. З гэтай мэтай і была прынята пастанова аб уводзе прыборнага ўліку энергарэсурсаў. Мінжылкамгас, Белпаліўгаз, Мінпаліўэнерга, аблвыканкомы і Мінгарвыканком вызначылі канкрэтныя меры па рэалізацыі гэтага дакумента на практыцы. Якія ж вынікі?

— З пачатку бягучага года, — паведаміў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Батура, — з 1122 цэнтральных цеплавых пунктаў крыху больш за палову абсталяваны прыборамі ўліку. Пасля капітальнага рамонту ў 32 дамах устаноўлены лічыльнікі на цяпло і ваду.

Сёе-тое ў гэтым напрамку зроблена і Міністэрствам паліва і энергетыкі. Аднак прыбораў кватэрнага ўліку халоднай і гарачай вады было ўстаноўлена ў некалькі дзесяткаў разоў менш, чым планавалася. Прычыны такога становішча называліся розныя: няхватка фінансавых сродкаў, прыбораў уліку, адсутнасць узгодненасці ў дзеяннях асобных кіраўнікоў і іншыя. Ды і насельніцтва яшчэ не гатова псіхалагічна да таго, што прыйдзецца плаціць «па лічыльніку» за ваду, газ, паліва. Але іншага шляху няма.

Згодна з распрацаванай праграмай, групавыя лічыльнікі павінны быць устаноўлены да 1997 года, індывідуальныя — да 1999-га. На гэта з бюджэту выдзяляюцца адпаведныя фінансавыя рэсурсы. У прынятай на калегіі пастанове па ўводу прыборнага ўліку энергарэсурсаў скарэкціраваны дзеянні прыцягнутых да гэтай

# Тры старонкі з жыцця Янкі Купалы

**Супрацоўнікі Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь праводзяць шырокую і markdown разнабаковую працу па забеспячэнню даследаванняў матэрыяламі, выкарыстанне якіх да гэтага ўсяляк абмяжоўвалася.**

СЯРОД ТАКОЙ катэгорыі дакументаў аказалася пісьмо Якуба Коласа, Янкі Купалы і Змітрака Бядулі першаму сакратару ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнку, датаванае кастрычнікам 1939 г. Справа датычылася драматычнага, калі не сказаць трагічнага, лёсу аднаго з арганізатараў газеты «Наша ніва» — Аляксандра Мікітавіча Уласава. Падпісаўшыя ліст у свой час супрацоўнічалі з ім. Яны прасілі галоўную ў рэспубліцы партыйную асобу вызваліць з турмы беспадстаўна арыштаванага чалавека.

Але дзеля больш глыбокага разумення апісваемай падзеі далучым да гэтага дакумента два другія, датаваныя іншымі гадамі.

Такое спалучэнне дае магчымасць шырэй пазнаёміцца з натхняльнікам напісання ліста ў ЦК КП(б)Б Янкам Купалам.

Дакументы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Івана Дамінікавіча Луцэвіча, сустракаюцца ў Нацыянальным архіве неаднаразова. Яны малююць вобраз не толькі геніяльнага паэта, але і прынцыповага чалавека.

Народны песняр аставіў глыбокі і яскравы след у гісторыі любімай ім краіны амаль штодзённым напружаным змаганнем за новае, свабоднае жыццё, вернасцю роднай гісторыі, мове. Усё гэта праяўлялася ім не ў абстрактным выглядзе, а мела характар канкрэтнага ўчынку, звязвалася з лёсам роднай Беларусі.

Аб сказаным мы можам сведчыць другім дакументам — мала вядомым шырокаму чытачу вершам Янкі Купалы «Перад будучынай», які захоўваўся ў справах асобнага сектара ЦК КП(б)Б. Складаныя пачуцці паэта, народжаныя хісткім становішчам роднай краіны, насцярожанасцю да наплываючых на яго змен, перадае друкуемы ніжэй твор:

*Стаім мы перад будучынай нашай*
*І ўсе варожым, сочым яе ход...*
*Ці ўскрэснем мы з душой упаўшай, зьвяўшай,*
*Каб выйсьці ў свет, як нейкі здольны род...*

*Сягоньня мы жывем і ўдзень мы блудзім*
*Пад маскай асьлапляючаю нас*
*І, што сказаць самім сабе і людзям*
*Ня ведаем, ня можам, хоць і час.*

*Заціснуты, задушаны, як мышы*
*Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў*
*Шукаем, як сьляпыя, ня згубіўшы*
*Таго свайго, штось і мучыць і пячэ.*

*Пакрыўленыя колісь нашы душы*
*Дагэтуль выпрастаць ня ў моцы йшчэ;*
*Снуемся, у думках зводных затануўшы,*
*А хтось, а штось і мучыць і пячэ.*

*Цябе чакаем, будучыны нейкай,*
*Што прыдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш*
*І гінем марна пад чужой апекай*
*Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.*

*А хтось далёкі, ці хтось можа блізкі*
*Засеў за наш бяседны, сытны стол*
*І кідае, як з ласкі нам агрызкі,*
*А мы к зямлі з падзякай гнемся ўпол.*

*Нявольніцтва й жабрацтва так нас зьела*
*І так нам высмактала з сэрца сок,*
*Што на'т у вочы глянуць, плюнуць сьмела*
*Ня сьмеем, стоптаныя на пясок.*

*Там чутна: «Беларусь! там — Незалежнасьць!*
*А там — «Паўстань, пракляцьцем»... Ну, а Мы?*
*Мы у страху... дум крутня... разьбежнасьць...*
*Бяз толку крыльлем хлопаем як цьмы.*

*О, так як цьмы, як спуджаны вароны!..*
*І слухаем і нюхаем тут, там:*
*Які павеяў вецер на загоны —*
*Заходні, усходні й ці ад нас, ці к нам?*

*Аграбленыя з гонару й кашулі,*
*З свайго прыпыну выгнаныя вон*
*Мы дзякуем, што торбы апранулі*
*На нас ды з нашых нітак—валакон.*

*З кійком жабрачым так мы, паўналеткі*
*Брыдзем, паўзем у сьвет — скрозь неўпапад,*
*І прысягаем, клічам бога ў сьведкі,*
*Што мы — ня мы, што нехта вінават.*

*І так жывем, сябе саміх ня знаўшы*
*Учора, сёньня лазім між канаў...*
*Няўжож-бы хто й над будучынай нашай*
*Навек залом пракляты заламаў?*

*Няўжо нас не аб'ясьніць розум ясны,*
*І не пакінем біцца з кута ў кут?*
*Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны*
*Кліч бураломны: вызваленьне з пут!?*

Пад вершам, напісаным ад рукі, стаіць дата — 24/1-22 г., пазначана імя — Янка Купала.

Не ўсе афіцыйныя дзяржаўныя, партыйныя кіраўнічыя асобы рэспублікі разумелі перажыванні паэта, не ўсе імкнуліся дапамагчы яму як творчай асобе знайсці сваё месца ў дзяржаўным і грамадскім жыцці, асабліва ў час беларусізацыі і пасля яе штучнага прыпынення. Ён тонка адчуваў, як мэтанакіравана складваецца вакол яго негатыўны мікраклімат, нават сачэнне за ім агентаў НКУС. І ён не памыляўся.

Аб гэтым паведамляе наступны матэрыял — кампрамат на паэта, які збіраўся гадамі і ўсплыў на паверхню перад дэкадай беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 г.

У чым толькі не абвінавачваўся народны песняр. Яму прыпісвалася контррэвалюцыйная дзейнасць аж з 1908 г. Шырокім размахам пяра невядомы аўтар маляваў партрэт Івана Дамінікавіча Луцэвіча як арганізатара антысавецкага руху ў Беларусі ў 1919—1920 гг., прыпісваў яму цесную сувязь праз пасрэдніка з Пілсудскім, стварэнне капіталістычных арганізацый «Беларускі нацыянальны камітэт», «Вайсковая камісія», арганізацыю нацдэмаўскіх выданняў «Узвышша», «Полымя», «Маладняк», кіраўніцтва нацыянал-фашысцкім падполлем у Беларусі, сяброўства з заядлымі ворагамі беларускага народа Чарвяковым і Галадзедам.

Не трэба казаць, што ўсё гэта высмактана з пальца. Ніколі Янка Купала не быў ворагам сваёй краіны, не займаўся антысавецкай дзейнасцю. Але ў 30-я гады ён нібы хадзіў пад купалам цырка па тоненькай нітачцы, з якой гатовы быў кожную хвіліну сарвацца і разбіцца ўшчэнт. Можа, так яно і здарылася б, каб не вялікая любоў да паэта шырокіх народных мас, яго высокі аўтарытэт сярод літаратараў не толькі Беларусі, але і далёка за яе межамі.

Вось у такой цяжкай у першую чаргу для самога сябе сітуацыі ён разам з Якубам Коласам, Змітраком Бядулям, не баючыся трапіць пад карны меч, піша мужнае пісьмо ў абарону незаслужана абвінавачанага А. М. Уласава.

Вось што ў ім апавядаецца:

«В сентябре месяце 1939 года органами НКВД был арестован в гор. Молодечно Александр Никитович Власов. С именем Власова неразрывно связана организация первых белорусских газет — «Наша доля» и «Наша нива». В «Нашей доле» он был ближайшим и одним из руководящих сотрудников. После того, как «Наша доля» была закрыта (в 1906 г.), а ее редактор был осужден к заключению в крепость, стала выходить другая белорусская газета — «Наша нива», редактором которой был Власов. Мы также принимали активное участие в названных газетах, как их сотрудники, помещая свои статьи и стихи, протестуя в них против самодержавного произвола, против социального и национального угнетения белорусского народа. Мы хорошо знаем Власова, как человека, преданного трудовому народу, как культурного работника и собирателя разрозненной белорусской интеллигенции с тем, чтобы поставить ее на службу народа. Против русской культуры Власов никогда не относился отрицательно и в своей деятельности не ставил вопроса об отрыве белорусского народа от народа русского. В настоящее время Власов уже старик, и было бы не справедливо для него, если бы он на склоне своих лет не принял участие в строительстве новой социалистической культуры народа, за которую он боролся и много отдал лет своей жизни. Поэтому мы просим Вас, тов. Пономаренко, пересмотреть вопрос о Власове и отнестись снисходительно к его ошибкам, если они у него были, и дать возможность реабилитировать себя на советской работе».

На лісце адсутнічае якая-небудзь рэзалюцыя. Выдатныя беларускія літаратары, паэты, аўтарытэтныя ў Беларусі і СССР людзі не здолелі спыніць беззаконнасць. А. М. Уласаў быў прысуджаны да высылкі, дзе і памёр. Рэабілітаваны ў 1961 г. за адсутнасцю саставу злачынства.

Часам кнут мяняўся на пералік. Пасля дэкады беларускага мастацтва ў Маскве Янка Купала разам з Якубам Коласам быў узнагароджаны ордэнам Леніна. Але свой крыж змагара за народную справу ён свядома нёс да самай сваёй трагічнай смерці 28 чэрвеня 1942 г. пры таемных абставінах у гатэлі «Масква».

Вось з якімі старонкамі з жыцця паэта знаёмяць толькі некаторыя дакументы архіва.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва РБ,**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік НАРБ.**

*Максім ЛУЖАНІН*

## НАВАГОДНІЯ МЕРКАВАННІ

**Пра нягоднае словаўжыванне**

*Ад вечара да рана*
*Гавораць — дзень у дзень! —*
*бястварае* ***складана***
*Замест* ***справы дрэнь.***

*Як людзі не прыстануць!*
*Без сораму, без меж*
*Падводзяць пад* ***складанасць***
*Машэнства і крадзеж.*

*Разрагатаўся б немы,*
*Калі б сказалі ў твар,*
*Што лічым за* ***праблемы***
*Сорт ежы ці пітва.*

*Запомнім добра ўсе мы,*
*Перш чым сказаць, узваж:*
*Быць ці не быць — праблема,*
*Піць ці не піць — яна ж?*

*Газеціну прамацай,*
*Спрабуй, уразумей*
*Сэнс* ***іміджаў,***
***стагнацый***
*І слоў яшчэ мудрэй.*

*Залапіў многа дзірак*
***Бязгрошавы разлік,***
*А мы яго за* ***клірынг***
*Без гуку аддалі.*

*У мовах калатнеча*
*Рабілася якраз*
*У смутны, небяспечны,*
*На наш падобны час.*

*Траплялася ўсяляка:*
*Калі звядзецца медзь,*
*Заводзяцца* ***дзензнакі*** *—*
*Дай Бог іх болей мець!*

*Але ў якой часіне,*
*Няйначай змокшы ў дождж,*
*Замест* ***бесхацінец***
*Пусцілі слоўца* ***бомж?***

*А гаварыць нашто нам,*
*І так бы кошт не ўцёк, —*
*Не* ***долар, а зялёны***
*Не* ***тысяча — кусок.***

*Замнога брыдкаслоўя*
*Падкінуў крымінал.*
*Даруйце, за галоўным*
*Яго я абмінаў.*

*Даруйце, мы б хацелі*
*Прыстойна размаўляць:*
*Прыгожае мадэлі*
*Нічым не замяняць.*

*Або, як цяжка стане*
*Развіць вузлы дарог,*
*Не хныкай:* ***я не ў стане,***
*Прызнай:* ***зрабіць не мог.***

*Сачыце, дайце веры,*
*Мы слых уберажом,*
*І не пішыце* ***перад***
*Пасля прыслоўя* ***ўжо.***

*Будзь мовы вечным вучнем*
*І вартай, як ваяр.*
*Не знойдзеш мілагучней,*
*Чысцейшай, чым твая.*

*Калі б, адмёўшы ганьбы,*
*Пра мову кожны дбаў,*
*З павагай шапку зняў бы,*
*Прад намі свет бы ўстаў.*

*Адкуль жа столькі ласых*
*Заморскае хапаць?*
*Стае ж свайго запасу*
*У памяці ў тарпах.*

*Навошта ж па-бядняцку*
*За звычкай нейкіх «сфер»*
*Сачыць, прыпадабняцца?*
*Не той жа час цяпер.*

*Калісьці па-французску*
*Двор царскі гаварыў,*
*А мы — па-беларуску,*
*Мы ж у сваім двары.*

*Пазбудзься ліхадзейства,*
*Натрудзь мазгі, язык,*
*Што не перакладзецца,*
*Тады ў людзей пазыч.*

*Там-сям абавязкова*
*Бяруць вялікі штраф:*
*Ужыў чужое слова,*
*Разлічвацца патрап!*

*Каб мець з людзьмі размовы*
*Дастойна, пры стале,*
*Перш-наперш ведай мовы*
*І чымся больш, тым лепш.*

*На гэта кліча рупнасць,*
*Навука — не аброць.*
*Вучыцца я не супраць,*
*А вы хіба супроць?*

*Не мазаў ныркі мёдам,*
*Што зробіш — саграшыў!*
*Затое капнуў ёдам,*
*Не ўсю адолеў шкоду,*
*Крыху паварушыў.*
*Да працы,*
*З Новым Годам!*
*Віншую.*
*Ад душы.*

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

**У жыцці нічога не адбываецца выпадкова. Усё ўзаемазвязана, узаемаабумоўлена. І тое, што ў нашай краіне амаль аднachасова ўзніклі песні з аднолькавай ідэяй, тэмай, з аднолькавымі назвамі і блізкія па сваіх музычна-вобразных сродках, сведчыць пра глыбінныя плыні ў грамадстве. Праз адлюстраванне душэўнага стану асобы, яе духоўных памкненняў мастацкая творчасць тонка, пераканальна і на шмат гадоў наперад за палітычныя тэзы перадае сацыяльна-грамадскія праблемы і ступень іх вырашэння.**

Кампазітары розных пакаленняў, розных поглядаў абралі такія літаратурныя тэксты, каб у песні перадаць і мэты, і боль, і перажыванні насельнікаў нашага краю, каб аб'яднаць іх намаганні ў супольнай дзейнасці для стварэння характва і радасці. Яны звярнуліся да старажытнай спеўнай формы — малітвы, дзе паяднаныя слова і мелодыя ў прачулым агульным выкананні ачышчаюць душу, а навакольную прастору напаўняюць светлымі жаданнямі, верою ў чысціню адносінаў, надзеяй на справядлівасць.

У перыяд святак, зімовага Сонцавароту над нашым краем, калі самі па сабе, пад уплывам прыроды наплываюць у нас думкі пра ачышчэнне, пра абнаўленне, самаўдасканаленне, змяшчаем песні-малітвы Ігара Лучанка, Алега Моўчана, Эдуарда Ханка. Гэтыя творы прызнаны грамадствам. Яны з'яўляліся акцэнтуючым акордам на фестывалях, разнастайных мерапрыемствах, паўсюль, дзе выконваюцца.

Класік эстраднай песні (не толькі беларускай) Ігар Лучанок звярнуў увагу на белы верш Зянона Пазняка, змешчаны ў зборніку яго публіцыстыкі. Кампазітара прывабіў сюжэтны малюнак — іскрыстае характва і дасканальная чысціня прасторы, светласць дзеянняў, што адбываюцца ў ёй. Ён паклаў тэкст верша на музыку і папрасіў Зянона прывесці верш да адпаведнага памеру і зарыфмаваць радкі.

Песня «Малітва за Беларусь» (першапачатковая назва — «Авэ, Марыя») — гэта роздум-развага пра родны край, пра яго багацце, духоўнае і матэрыяльнае, пра асабістую адказнасць кожнага за яго чысціню, будучыню.

Сувязь асобы, краю і прыроды затоены ў выразе «Авэ, Марыя, грацыя плена...» («Радуйся, Марыя, поўны ўдзячнасці»), узятай з вячаровай імшы. Ён раскрывае змест песні-малітвы, скіроўвае нашы памкненні на супольную дзейнасць, на ўмацаванне ўсеагульнай сувязі, на падтрыманне душы ў стане пастаяннага абуджэння. Узвышанна-элегічная мелодыя спрыяе гэтаму.

**Міхась ШАВЫРКІН.**



## МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

*Гучанне анёльскага голасу*

***Музыка Ігара ЛУЧАНКА*** ***Тэкст ЗЯНОНА***

У цішы над зямлёй, у эфіры начным
Голас чысты гучыць — так пяе херувім:
— Авэ, Марыя, грацыя плена... *2 разы*

На радзіме маёй ён, як сонца прамень,
Белы цвет веснавы і крыніцы струмень:
— Авэ, Марыя, грацыя плена...

Беражы, сцеражы нас у чорнай бядзе.
Я далёка, далёка ў лясной старане:
— Авэ, Марыя, грацыя плена... *2 разы*

Там, дзе сосны шумяць, там, дзе хмары бягуць,
Хай ляціць над Зямлёй, над краінай маёй:
— Авэ, Марыя, грацыя плена...

*Coda:* — Авэ, Марыя, грацыя плена,
— Авэ, Марыя...

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

● **Назначаны новы галоўнакамандуючы федэральных войскаў у Чачні**

Новым камандуючым групоўкі федэральных войскаў у Чачні ўчора назначаны генерал-лейтэнант Вячаслаў Ціхаміраў. Былы камандуючы расійскімі войскамі ў Чачні зараз зойме пасаду камандуючага ўнутранымі войскамі УУС Расіі.

● **Асада Кабула працягваецца**

Артылерыя ісламскага апазіцыйнага руху «Талібан» падвергла абстрэлу жылыя кварталы на поўдні афганскай сталіцы. У выніку дваццаць чалавек загінулі, каля пяцідзесяці — атрымалі раненні.

● **Лётчыкаў вызваляць на гэтым тыдні**

Намеснік міністра замежных спраў Расіі Чарнышоў лічыць, што экіпаж расійскага самалёта, які захапілі афганскія маджахеды ў жніўні, будзе вызвалены на працягу тыдня. Зараз маджахеды ўтрымліваюць сямёра лётчыкаў і самалёт.

● **Міністры абароны ЗША, Расіі і Украіны сустрэнуцца ў Кіеве**

На гэтым тыдні ў Кіеве адбудзецца першая ў гісторыі трохбаковая сустрэча кіраўнікоў ваенных ведамстваў Расіі, ЗША і Украіны. 4-5 студзеня ў Кіеве будуць знаходзіцца з афіцыйным візітам міністры абароны Расіі і ЗША Павел Грачоў і Уільям Пэры.

● **Над горадам адбылося 900 грамавых разрадаў**

Праліўныя дажджы выклікалі наваднение ў Сіднеі. За дзве гадзіны выпала да 80 мм ападкаў. Многія сіднейцы, якія вярталіся з працы, былі вымушаны пакідаць на вуліцах затопленыя да вокнаў аўтамабілі. Многія будынкі на некалькі гадзін былі пазбаўлены энергазабеспячэння. За час, які лютавала стыхія над горадам, адбылося 900 грамавых разрадаў.

● **Эстэзія на ўсіх адна**

Самыя распаўсюджаныя ў Польшчы імёны — Ян і Марыя, інфармуе ўпершыню выдадзены ў краіне «Слоўнік» імён, якія выкарыстоўваюцца ў Польшчы». Імя Ян носяць 83.644 палякі, у гонар Прасвятой Дзевы Марыі была названы 894.841 полька. Увогуле ў краіне выкарыстоўваецца больш за 100 тысяч розных імён. Толькі 48 палякаў адгукаюцца на імя Рамэо, затое Джульет нашмат больш — 37.822. Грамадзянка Расіі, якая нарадзілася ў Польшчы, атрымала імя Эстэзія і стала, хутчэй за ўсё, адзінай яго носьбіткай і ў Польшчы, і ў Расіі.

● **Даўжніка звалі Слабадан Мілошэвіч**

Супрацоўніца Бялградскай тэлефоннай кампаніі, якая дзейнічала ў адпаведнасці са службовымі інструкцыямі, проста адключыла тэлефон абанента, які не аплаціў рахунак за лістапад і завінаваціўся кампаніі 60 дынараў (прыкладна 13 долараў ЗША). Яна не звярнула ўвагі на тое, што даўжніка звалі Слабадан Мілошэвіч, і ён ніяк не мог своечасова пагасіць доўг таму, што ў якасці прэзідэнта Сербіі знаходзіўся ў ЗША. Промах выявілі яшчэ да таго, як прэзідэнт вярнуўся. Няўважлівую тэлефаністку аштрафавалі.

*Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», радыё «Расія» і «Радыё РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.*

СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ

# Тост Шымона Пераса

ЖОРСТКАЕ, загадзя спланаванае забойства экстрэмістам-фанатыкам ізраільскага прэм'ер-міністра Іцхака Рабіна ўзрушыла свет. Як і ранейшыя, што на памяці нашага пакалення, палітычныя забойствы — Кенэдзі, Садата, Індзіры Гандзі, Раджыва Гандзі. Але гэты расстрэл ва ўпор — сярод белага дня і сярод прыхільнікаў мірнага ўрэгулявання араба-ізраільскага канфлікту — узрушыў, шакіраваў перш за ўсё, вядома, суайчыннікаў забітага лідэра. «Гэта нацыянальная ганьба і злачынства, якому няма даравання», — заявіў адзін з рэлігійных дзеячаў Ізраіля.

Як пішуць газеты, колькасць тых, хто выступаў супраць мірнага ўрэгулявання ў рэгіёне, не зводзілася да групы ультраартадоксаў, выканаўцам злавеснай волі якіх стаў студэнт Ігал Амір. Супраць пагадненняў з палесцінцамі выступала столькі ж, колькі прыкладна і за пагадненні. І стрэлы, якія прагучалі 4 лістапада ў Тэль-Авіве, маглі стаць дэтанатарам драматычнага сацыяльнага расколу, дэстабілізаваць палітычную абстаноўку ў краіне. Маглі, але гэтага не адбылося. І не адбылося дзякуючы некалькім фактарам, галоўным з якіх, можа быць, з'яўляецца фактар пераемнасці, фактар пераходу ўлады да вернага саратніка Рабіна, яго «правай рукі», таксама лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру, Шымона Пераса. Менавіта яго зацвердзіў кнесет праз некалькі дзён пасля крывавай падзеі ў якасці новага прэм'ер-міністра і міністра абароны.

...Шымона Пераса я ўбачыў упершыню ў 1977 годзе ў Нью-Йорку падчас работы 32-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Ён не быў членам ізраільскай дэлегацыі і не выступаў з трыбуны. Але аднойчы, у перапынку паміж пасяджэннямі, з'явіўся ў зале і мне сказалі шэптам: «Паглядзі, Шымон Перас, лідэр апазіцыі ў кнесеце...» Паміж радамі крэслаў прайшоў стройны, падцягнуты, з разумным, валявым тварам, у цёмна-сінім касцюме мужчына.

Пасля гэтага я ўжо потым не прапускаў без увагі ўпамінанне ў сродках масавай інфармацыі імя Шымона Пераса, аднаго з нязменных лідэраў Ізраіля.

Праз пятнаццаць гадоў, у жніўні 1992 г., я ўбачыў Шымона Пераса другі раз. Але ўжо па-іншаму, пры іншых абставінах: падчас візіту яго як міністра замежных спраў дзяржавы Ізраіль у суверэнную, незалежную Рэспубліку Беларусь. Тагачасны кіраўнік нашага знешнепалітычнага ведамства Пётр Краўчанка праявіў добрую ініцыятыву і арганізаваў сустрэчу-абед прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі з ізраільскім міністрам. Злева ад мяне сядзеў былы пасол Ізраіля ў Маскве (у Беларусі тады яшчэ не было ізраільскай амбасады), а амаль насупраць — Шымон Перас. Была магчымасць звяртацца непасрэдна да яго, пытацца і адказваць на пытанні. Загаварылі, памятаю, на тэму, якую можна сфармуляваць прыкладна так: «Палітыка і мастак». Высокі госць не зусім пахвальна выказаўся адносна ўдзелу мастака ў палітычным жыцці, зазначыў, што гэта ўсё ж дзве розныя і таму не зусім сумяшчальныя сферы. Калі я прывёў словы Арыстоцеля пра тое, што «мастак — першы палітык», Ш. Перас, крыху падумаўшы, сказаў: «Ну, гэта калі мець на ўвазе палітыку ў самым шырокім сэнсе слова».

Я ведаў, што карані міністра ў беларускім краі, што ён збіраецца наведаць Валожын, дзе жыў і працаваў, меў сваю краму яго бацька (нават захавалася памяшканне той крамы). І размова, натуральна, зайшла пра той гістарычна вядомы факт, што амаль усе «бацькі-заснавальнікі» новай яўрэйскай дзяржавы з'яўляюцца выхадцамі з Беларусі. Тут я, адштурхоўваючыся ад гэтага факта і карыстаючыся, што называецца, шчаслівым выпадкам, загаварыў пра наш нацыянальны інтарэс. Пан Перас, звярнуўся я да міністра, калі мець на ўвазе ўсё гэта, гэтую вось заслугу Беларусі перад Ізраілем, то наша маладая суверэнная дзяржава мае, відаць, падставы, у прыватнасці з боку яе знешнепалітычнай службы, на падтрымку — і ў двухбаковых адносінах, і на міжнароднай арэне — нашай дзяржаўнасці, нашай эканомікі, нашай культуры і мовы. Я не ведаў, наколькі дыпламатычным выглядаў мой зварот, але Шымон Перас успрыняў яго станоўча. І калі пайшлі ўжо тосты, абвясціў: «За беларускую мову і іўрыт! За іўрыт і беларускую мову!» Тост быў дружна падтрыманы ўсімі ўдзельнікамі застолля.

Падзея знайшла месца ў маіх дзённікавых запісах, той тост я часта прыгадваў — тым больш, што прычын для гэтага хапае. Выразна прыгадаўся ён мне, калі я чытаў нядаўна ў нашай газеце «Звязда» інтэрв'ю яе супрацоўніка А. Мяснікова з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Ізраіля Эліаху Валкам, у прыватнасці наступныя яго словы: «Так, у палітычным аспекце нам ёсць над чым працаваць. Мы падтрымліваем і будзем падтрымліваць прапановы Беларусі па многіх пытаннях у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, у прыватнасці, адносна вылучэння беларускіх прадстаўнікоў у розных установах ААН, і, натуральна, разлічваем на такія ж адносіны рэспублікі да Ізраіля. Тое ж можна сказаць і пра дзейнасць у іншых міжнародных арганізацыях... Ну, а ў культурнай сферы наогул магчымасцей вельмі і вельмі шмат. Адносіны ў галіне культуры паміж Ізраілем і Беларуссю далёка не такія, як, скажам, паміж Ізраілем і Філіпінамі ці Ізраілем і Гандурасам. На працягу шасці стагоддзяў на зямлі беларускай жылі і жывуць яўрэі. Беларусь з'яўляецца радзімай вядомых ізраільскіх грамадскіх і палітычных дзеячаў, у нас жывуць сёння тысячы выхадцаў з Беларусі. Такім чынам, паміж намі існуе цэлая сістэма сувязей і каштоўнасцей».

Словы пасла з'яўляюцца, па сутнасці, працягам той памятнай гаворкі, якая адбылася ў канцы жніўня 92-га года з Шымонам Перасам, дапаўненнем да яго тоста.

Хацеў бы яшчэ дадаць па асацыяцыі наступнае. Выказванне Шымона Пераса ў падтрымку нашай мовы — не адзінае па сэнсу ў сваім родзе. Прывяду факты, сведкам якіх быў асабіста. Помніцца візіт у нашу рэспубліку прэзідэнта Фінляндыі Мауна Койвіста. Падчас сустрэчы ў Вярхоўным Савеце ён з разуменнем загаварыў пра наша нацыянальна-культурнае адраджэнне, спасылаўся на аналагічны вопыт свайго народа, у прыватнасці, падрабязна расказаваў, якім чынам ішло ўсталяванне фінскай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Восенню 1992 г. Рэспубліку Беларусь наведаў старшыня Нацыянальнага Савета Федэральнага сходу Швейцарыі Ханс-Рудольф Небікер. Выступаючы з трыбуны Вярхоўнага Савета, ён гаварыў і пра лёс нашага народа, пра лёс нашай мовы. А потым у інтэрв'ю газеце «Звязда» сказаў: «У вас з'явілася вялікая магчымасць стварыць новую незалежную дзяржаву, з новай канстытуцыяй, новымі законамі, устанавіць новы дэмакратычны парадак. Гэта будзе нялёгка, на гэтым шляху будуць сустракацца цяжкасці, але храбрасці вам не пазычаць. А галоўнае — верце ў вялікую будучыню Беларусі!»

Наступны прыклад. Падчас паездкі ў Кітай дэлегацыі Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей, якая адбылася ў студзені дзевяноста трэцяга года, паэт і грамадскі дзеяч, сын славутага маршала і дыпламата Чэнь І, намеснік старшыні Кітайскага таварыства дружбы Чэнь Хаусу з цікаўнасцю распытваў пра змены, што адбываюцца ў Беларусі, і на развітанне падарыў мне сваю кнігу з наступным аўтографам: «Мы будзем спяваць на сваіх мовах адну і тую ж песню, песню ў гонар дружбы, і будзем спадзявацца, што Кітай і Беларусь разам дасягнуць светлай будучыні». Як вядома, уважліва ставяцца да нашай моўнай сітуацыі і спрабуюць часам сказаць па-беларуску хоць некалькі сказаў амерыканскія паслы ў Беларусі — былы Дэвід Суорц і сённяшні Кенет Я. Яловіц. І ў гэтай сувязі мне ўспамінаецца, як на прэзентацыі, прысвечанай паказу сусветна вядомага фільма «Ісус» у сінхронным перакладзе на беларускую, праамерыканскі прадстаўнік звяртаўся да залы: «Я віншую вас. Я спадзяюся, што вобраз Хрыста будзе цяпер зліваецца ў вашай свядомасці з вобразам роднай мовы».

І яшчэ адзін, у заключэнне, факт. Вясной мінулага года апостальскі нунцый (пасол Ватыкана), арцыбіскуп Агасціна Маркета нанёс візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Мечаславу Грыбу. Гаворка зайшла пра мову набажэнства ў касцёле. І яго экселенцыя пагадзіўся, што служба для беларусаў павінна весціся на іх роднай мове, і дадаў: «Без дзяржаўнай беларускай мовы не будзе незалежнай дзяржавы».

Адным словам, самыя розныя высокааўтарытэтныя прадстаўнікі міжнароднай супольнасці з разуменнем, павагай і спачуваннем ставяцца да нашага імкнення «людзьмі звацца», мець сваю суверэнную дзяржаву, і ў якасці дзяржаўнай — сваю родную мову. Нас разумеюць, нам спагадаюць «чужыя», і на гэтым фоне дзіўна, мякка кажучы, выглядаюць тыя «свае», што ваююць супраць нашага нацыянальна-культурнага адраджэння, супраць нашай мовы. Хаця, зрэшты, і прэм'ера Рабіна забіў на плошчы Цароў Ізраілевых не араб, не ультра — адэпт ісламісцкага ХАМАСА, а «свой»— грамадзянін Ізраіля.

Класік сказаў, што «няма нічога страшнее за дзейнае невуцтва». Не, ёсць яшчэ нешта страшнейшае. Гэта — ірацыянальны экстрэмізм, замешаны на ўсякага роду фанатызме — ідэалагічным, этнічным, рэлігійным.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

# КУДЫ НІ ТРАПЯЦЬ БЕЛАРУСЫ...









**Уна — маленькі старажытны заходнегерманскі горад побач з Дортмундам. Усё часцей адчуваецца ў ім беларуская прысутнасць. Напрыклад, нашы дзяўчынкі таямніча глядзяць з рэклам на бесклапотных радавітых немцаў, што, здаецца, без справы швэндаюцца па калядным горадзе. (Віцяблянка Марыя Кежа — пераможца конкурсу «Панна «Белая Русь» упрыгожыла вітрыну швейнай майстэрні.) А хлопцы-музыкі добра шчыруюць для падтрымкі ўсеагульнага настрою... Што ж, кожны зарабляе па свойму. Вось прачытаў на апошняй старонцы гарадской газеты аб'яву, што Зіна і Надзя прапануюць каханне, і чамусьці вырашыў, што гэта таксама нашы.**

**Анатоль КЛЯШЧУК. Фота аўтара.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Што галоўнае для злодзея? Адказвае безыменны індыйскі жулік: знайсці сквапнага прасцяка.

Ля стаянкі таксі ля аэрапорта Дэлі да прыбыўшага з Дубаі Амару Фаруку падышоў незнаёмы і ветліва паказаў яму, што, відаць, ён згубіў грошы, якія ляжаць на зямлі. Крыху здзівіўшыся, прыезджы ўсё ж такі пачаў збіраць раскіданыя дробныя купюры. Але разагнуўшыся ён убачыў, што бясследна зніклі яго рэчы. А там знаходзілася... пяць кілаграмаў золата.

*ІТАР-ТАСС*

У інтэрв'ю амерыканскай тэлекампаніі 37-гадовая былая манекеншчыца, а цяпер «поп-зорка» і кінаактрыса Мадонна заявіла, што хоча нарадзіць дзіця і па сканчэнні працы над чарговым фільмам «збіраецца даць парачку аб'яў у «Нью-Йорк таймс» і «Вілідмс войс», што, маўляў, патрабуецца бацька для будучага дзіцяці Мадонны. Хто адгукнецца на гэтыя аб'явы і хто падасць заяўку на бацькоўства?.. — задаецца пытаннем «зорка».

*«Труд»*

Ала Пугачова на нядаўняй прэс-канферэнцыі заявіла, што не лічыць Філіпа Кіркорава вялікім. Калі спевака так адрэкамендавалі з тэлеэкрана, яна, па яе прызнанню, нават рассмяялася.

— Артысту, — сказала Пугачова, — вельмі шмат трэба зрабіць, каб яго назвалі вялікім. Філіп і сам вельмі перажывае наконт гэтага. Ён сябе да гэтага часу лічыць пачынаючым артыстам, хоць я так не лічу. — Адказваючы на пытанне, чаму шчаслівыя муж і жонка толькі аднойчы спявалі разам, Ала Барысаўна сказала: — Са мной наогул спяваць разам вельмі цяжка. Я баюся партнёрства, паколькі я вельмі мяккі чалавек. Я буду больш думаць пра партнёра, чым пра сябе. І калі я з кімсьці спявала, то больш для таго, каб прадставіць гэтага чалавека. Філіпа прадстаўляць не трэба, а ён мяне падаўляць не хоча.

*«Інтэрмедыя»*

# У «ПУШЭ» ЧАРГОВЫ ПАДАРУНАК ДЛЯ ЖЫХАРОЎ РЭСПУБЛІКІ

**Напярэдадні навагодніх святаў закрытае акцыянернае таварыства «Пушэ» ў чарговы раз парадавала жыхароў сталіцы адкрыццём выдатнага гандлёвага цэнтра, дзе ўдала ў адзін ансамбль упісаліся магазін падарункаў «Капрыза», парфумерны магазін «Джулія», ювелірны магазін «Гран», прадуктовы супермаркет і рэстаран «Фэліцыя», салон мэблі і аддзел тавараў для дому. Увесь гэты гіганцкі гандлёвы комплекс пабудаваны ў лепшых традыцыях «Пушэ». Пакупнікоў прыцягвае туды не толькі прывабны выгляд звонку і знутры, але і памяркоўныя цэны.**

Адкрыццё універсальнага гандлёвага цэнтра стала магчымым дзякуючы стварэнню сумеснага беларуска-ліхтэнштэйнскага прадпрыемства «Пушэ-Трэйдынг», якое будзе займацца ў Беларусі арганізацыяй спецыялізаваных прадпрыемстваў і фірменных магазінаў па аптовым і рознічным продажы электронікі, бытавой тэхнікі і асвятляльнага абсталявання «Philips», бытавой тэхнікі «Whirlpool», мэблі, прадуктаў харчавання, ювелірных вырабаў і тавараў народнага спажывання, а таксама рэстараннага бізнесу.

На адкрыцці сумеснага прадпрыемства прэзідэнт ЗАТ «Пушэ» Аляксандр Пупейка зазначыў, што ўвядзенне ў строй указанага гандлёвага комплексу — далёка не апошняя добрая справа «Пушэ». На чарзе — адкрыццё банкаўскага памяшкання. Калі ўдасца знайсці агульную мову з гарадскімі ўладамі, заключыў Аляксандр Трафімавіч, то «Пушэ» гатова ўзяць пад сваю апеку некаторыя гарадскія аб'екты незавершанага будаўніцтва, якія ёсць, у прыватнасці, у Фрунзенскім раёне, і прывесці іх у нармальны выгляд.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# У «ДЖЭМе» УСЁ СХОПЛЕНА: ВЫНІКІ ПАДВЕДЗЕНЫ, ПЛАНЫ СКЛАДЗЕНЫ

Напрыканцы мінулага года кампанія «Джэм» абвясціла вынікі працы ў 1995 годзе.

Самай важнай падзеяй прэзідэнт холдынгу Андрэй Каладоўскі назваў уваход у састаў сістэмы «Джэм-банка». Банк, а таксама кампанія «Джэм-траст» і фірма «Джэм-дылінг» сталі асноўнымі часткамі холдынгу. Каб дакладна пабудаваць адносіны паміж удзельнікамі сістэмы, распрацаваны план стратэгічнага развіцця холдынгу на бягучы і 1997 гады. Персанал кампаніі пастаянна павышае кваліфікацыю. Аднак холдынг займаецца не толькі адукацыяй сваіх работнікаў, але і кліентаў, нават патэнцыяльных: праводзіць семінары, а таксама друкуе ў прэсе артыкулы спецыялістаў кампаніі.

У мінулым годзе сістэмай «Джэм» было створана каля 200 працоўных месцаў і пералічана ў дзяржаўную казну каля 8 млрд. рублёў падатковых плацяжоў. Гэта складае прыкладна 44,4 млн. рублёў на аднаго супрацоўніка сістэмы. Па падліках спецыялістаў «Джэм», калі б кожны з 5 млн. 722 тыс. чалавек працаздольнага насельніцтва нашай рэспублікі ўносіў бы тую ж суму, то бюджэт папаўняўся б больш чым на 254,3 трлн. рублёў, што здольна вывесці краіну з любога крызісу.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ЯШЧЭ ШЭСЦЬ МЕСЯЦАЎ НА РОЗДУМ

**Распаўсюджана афіцыйнае паведамленне Кабінета Міністраў аб падаўжэнні на шэсць месяцаў тэрміну прыёму ад грамадзян заяў па налічэнню імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць».**

Нагадаем, што першы этап прыватызацыі на Беларусі павінен быў скончыцца з наступленнем 1996 года. Гэтая акалічнасць стала прычынай ажыятажу ў некаторых рэгіёнах рэспублікі, дзе грамадзяне літаральна ў апошнія пераднавагоднія дні спахапіліся і кінуліся ў тэрытарыяльныя камісіі з заявамі на налічэнне ІПЧ «Маёмасць». Зразумела, што не ўсе. Улічваючы гэты факт, урад прыняў рашэнне аб павелічэнні тэрміну прыёму заяў. Такім чынам, ён павінен скончыцца 30 чэрвеня бягучага года.

**Сяргей ГРЫБ.**

## УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.



Малюнак Марыны ГАРЭЛАВАЙ.

## КРЫМІНАЛ

# «ЗАБЛУДЗІЛІСЯ» НА ЛЯСНЫХ СЦЕЖКАХ КАНТРАБАНДЫСТЫ...

**Відаць, брэсцкія суды маюць намер прымаць рашучыя меры супраць тых бізнесменаў, якія імкнуцца даставіць вялікія партыі імпартных тавараў без аплаты мытных пошлін.**

Карэспандэнт БЕЛТА ўжо паведамляў, што 21 лістапада супрацоўнікі мытні «Заходні Буг» затрымалі ў вёсцы Лелікава Кобрынскага раёна тры аўтобусы «Мерседэс» з кантрабандным грузам, ацэненым экспертамі і судом больш чым у тры мільярды рублёў. Перавозіўся ён з Турцыі ў суправаджэнні грамадзяніна Расіі Сяргея Папова, які працуе, паводле яго слоў, па найму ў адной з фірмаў. Паабяцаўшы праваднику заплаціць па 200 долараў за машыну, ён разлічваў нелегальна пераправіць груз па лясных дарогах праз украінска-беларускую граніцу на тэрыторыю нашай рэспублікі, дзе, як вядома, дзейнічаюць правілы адзінага мытнага саюза з Расіяй. Аднак здзелка, на якой планавалася зэканоміць трыццаць тысяч долараў мытнай пошліны, не ўдалася.

Суд Маскоўскага раёна горада Брэста вырашыў канфіскаваць кантрабандны груз і налажыў на парушальнікаў штраф у памеры 575 тысяч рублёў. Такі лёс напаткаў і «заблудзіўшае» на беларускіх лясных сцежках таварыства з абмежаванай адказнасцю «Туркантыненталь». Яго караван быў затрыманы каля вёскі Тамашоўка. Суд таксама разгледзеў гэту справу і прыняў рашэнне аб канфіскацыі грузу, ацэненага ў тры з паловай мільярда рублёў, і аб выплаце штрафу.

**Іван КУКСА, БЕЛТА.**

# МІЛІЦЫЯНЕР НЕ РАЗГУБІЎСЯ

Да ўчастковага міліцыянера Хойніцкага РАУС М. Свірыдзецкага, які знаходзіўся ў памяшканні Алексічскага сельсавета, прыбегла палявод калгаса «Ленінскі шлях» А. Папаян: дапамажыце! Брат Віктар, нажлукціўшыся гарэлкі, б'ецца, ледзьве ўратавалася ад яго, бо гнаўся да самага сельсавета. Участковы выйшаў на вуліцу. Убачыўшы яго, хуліган... пачаў біць вокны ў машыне міліцыянера, які ў адказ на гэта зрабіў папераджальны стрэл. Хуліган з нажом кінуўся на ўчастковага, але той не разгубіўся, другім стрэлам параніўшы яго. Зараз ён знаходзіцца ў бальніцы, пасля чаго будзе прыцягнуты да адказнасці.

# ПАДАРУНАК. ДЫ НЕ ТОЙ

Напэўна, зараз камерцыйны дырэктар санкт-пецярбургскага навукова-вытворчага аб'яднання «АУН» Л. Рыхтэр, які жыве ў Жлобіне, можа быць спакойным. Яго ўжо не будуць мучыць вымагальнікі — трое непрацуючых і рабочы адной з мясцовых вытворча-камерцыйных фірмаў. Тры з паловай гадзіны яны пагражалі яму распраўай, калі ён не «падорыць» ім тысячу «баксаў». Думаецца, рэкеціры падарунак усё ж атрымаюць. Ад суда.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца воблачнае надвор'е, часам снег, слабая мяцеліца. Тэмпература паветра ў Брэсце — 5—7, Гродне, Гомелі, Мінску — 7—9, Магілёве — 9—11, Віцебску — 10—12 градусаў марозу.

У наступныя двое сутак маразы ўзмоцняцца. 5 студзеня — месцамі, 6-га — па поўдню снег; тэмпература 5-га ўначы — 9—14, удзень — 6—11, 6-га ўначы — 12—17, удзень — 9—14 градусаў ніжэй нуля.

## МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 4 СТУДЗЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца полем паніжанага атмасфернага ціску. Значэнні асноўных метэаэлементаў будуць вагацца нязначна. У такіх умовах у большасці метэазалежных хворых істотных змен у самаадчуванні не адбудзецца. Магчыма толькі пагаршэнне стану здароўя ў асоб з апераджальнай рэакцыяй на неспрыяльныя ўмовы па геафізічных фактарах (5 студзеня — неспрыяльны дзень). Гэтай групе рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, прымаць заспакаяльныя сродкі і лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

Згубленае пасведчанне ліквідатара наступстваў аварыі на ЧАЭС № 332476, выдадзенае на імя НЕСЦЕРАВА Сяргея Валер'евіча, лічыць несапраўдным.

**Мяняю** МТЗ-82, МТЗ-50 (капітальны рамонт у 1995 г.) **на аўтамабілі ці прадам.**

**Тэлефон у Гомелі 8(0232) 44-48-13.**

**Культурны цэнтр беларусаў у Эстоніі прапануе 4-дзённыя туры ў Талін** (праз Полацк). Першы тур — 12—15 студзеня. Маршрут дасць Вам магчымасць наведаць сваякоў, зрабіць цікавыя экскурсіі, пазнаёміцца з аўтарынкам.

Візавая падтрымка.

**Даведкі па тэлефонах у Мінску: 76-91-94, 26-64-39, 31-26-76.**

Віншуем дарагую жонку, маці, бабулю Сяўрук Антаніну Іванаўну з 60-годдзем.

*Мы, твае родныя, жадаем горачка не знаць*
*Няхай ні сэрцайка, ні рукі не баляць.*
*Жадаем часта усміхацца,*
*па дробязях не засмучацца.*
*Заўжды душою маладзець.*

**Муж, дзеці, унукі.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 4 студзеня

### Беларускае тэлебачанне

**11.40** «Паражэнне». Маст. фільм. 3-я серыя.
**15.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**15.10** Рэклама.
**15.15** «Чэхавы», «Душа паэта». Дак. фільмы.
**15.55** «Прыгоды капітана Урунгеля». Мультфільмы 8—11-ы.
**16.35** «Іграе Ігар Алоўнікаў». Дак. фільм.
**16.50** Госці ў хату. «Славуты кітайскі цырк».
**17.20** Шматгалоссе. Спяваюць і танцуюць дзеці розных народаў.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Дыялогі аб спорце. Тэлекаментатар Мікалай Петрапаўлаўскі.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па адным». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны.
**19.05** «Крок». Праграма для моладзі.
**19.40** «Вестгейт». 3-я серыя.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**22.00** Музычны антракт.
**22.10** «Смерць па кантракту». Маст. фільм (Італія). 2-я серыя.
**23.15** «Супергол». Агляд матчаў еўрапейскіх футбольных чэмпіянатаў.
**23.45** Рок-карона-95. Гурт «Раманс».
**0.05** Навіны.

### ГРТ

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Навіны.
**14.20** «Віджыт спяшаецца на дапамогу».
**14.40** Лега-га!
**15.10** Цін-тонік.
**15.35** «Элен і хлопцы». Серыял.
**16.00** Рок-урок.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Сакрэт Трапіканкі». Серыял.
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лато «Мільён».
**19.00** «Адзін на адзін». Вядучы — А.Любімаў.
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.45** О.Муці і М.Плачыда ў маст. фільме «Народны раман».
**22.35** Музагляд.
**23.30** Ралі Парыж—Гранада—Дакар.
**23.40** «Т.С.Н.». Серыял.

### Канал «Расія»

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.30** Мульці-пульці. «Ну, пачакай!»
**10.50** «Камень сноў».
**11.15** Новая лінія.
**15.05** Там-там навіны.
**15.20** Свята кожны дзень.
**15.30** Новая лінія. «Створы дабро».
**16.20** Мульці-пульці. «Навагодні вецер».
**16.35** Кліп-антракт. Група «На-На».
**16.40** Тэлеконкурс юрыстаў.
**17.10** Расійскія чыгункі.
**17.25** Шостае пачуццё.
**17.55** «Пецярбургскія тайны». 2-я серыя.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Маскі-шоу.
**21.10** Зусім сакрэтна.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.50** Музычная Фларэнцыя.

### НТБ

**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** Чак Норыс у фільме «Круты Уокер: правасуддзе па-тэхаску».
**20.40** «Тэфі-96»: хто ёсць хто.
**20.45** Мультфільмы на ноч.
**21.35** «Доктар Куін, жанчына-ўрач».
**22.30** Часінка.
**23.20** Кіно не для ўсіх. «Мары ідыёта» (Расія—Францыя).

Аддзел рэкламы газеты «Звязда» шчыра віншуе з Новым годам сваіх калег з рэкламных агенцтваў, арганізацыі, установы, банкі і фірмы, якія шляхам змяшчэння рэкламы на старонках газеты садзейнічалі стабілізацыі фінансавага становішча рэдакцыі.

Мы жадаем моцнага здароўя, асабістага шчасця супрацоўнікам **«Евродоминвеста», «Лесной промышленности»**, банкаў **«Белбізнесбанк», «Алімп»**, рекламных агенцтваў **«Автотур», «БелРИА», «Гольфстрим», «Ладенит», «Наме», «Нибелунг», «Профи-С», «Рекарт», «РеМарк»**, фірмаў **«Дайнова», «Концессия», «Квадромаркет», «Бетарк», «Санрайс», «Элос», «Деметрия», «ЛиП», «СНАМИ», «Багорыя», «Белтехоснастка», «Брестсельмаш», «Гидростеклосезол», «Белсвит», «Жос», «Нажим», «Гирас-Д», «Варинт-Агро», «Керамин»**, МГ **«Гри-Ва-Bf»**.

*Жадаем росквіту і дабрабыту!*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 5-68-24, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113191. Індэкс 63850.
Зак. № 8527.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12